18 жніўня 2017 | № 30 (544)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 17030

Вярнуцца да жыцця пасля псіхічнага захворвання

стар. 5

4 МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ: ПЕРАДВЫБАРЧЫ ПЕЙЗАЖ

Саветы — гэты рудымент савецкага дзяржаўнага ладу. Яны не маюць рэальнай улады

6–7 НАТАТКІ АНДРЭЯ ХАДАНОВІЧА



Кнігу «Нататкі таткі» я лічу адной з найлепшых, што напісаў. Яна, як і кнігі маіх калег, што пішуць для маленькіх, патрэбна будучыні Беларусі, бо галоўныя чытачы — нашы дзеці




8

11 ЗАБЫТЫ ЗМАГАР ФРАНКАМОЎНАЙ БЕЛАРУСІКІ

Сорак гадоў таму, 28 ліпеня 1977 года, у Парыжы памёр Леў Гарошка. Знакаміты ён быў у дыяспарнай Беларусі як святар ды хрысціянскі празаік, аднак дасюль застаюцца не вядомыя іншыя бакі яго дзейнасці

# Ці такі страшны «Захад–2017», як яго малююць?



Алесь КІРКЕВІЧ

**У верасні на тэрыторыі нашай краіны павінны прайсці беларуска-расійскія вайсковыя вучэнні «Захад–2017». Іх ужо назвалі самымі маштабнымі за год і для беларускага, і для расійскага войска.**

Агулам у Беларусі на вучэннях плануецца задзейнічаць каля 10 тысяч нашых вайскоўцаў і 3 тысячы расійскіх, не лічачы расійскіх дэсантнікаў, якія адначасна будуць адпрацоўваць наступальныя сцэнары на тэрыторыі Заходняй вайсковай акругі РФ.

Як толькі інфармацыя пра вучэнні трапіла ў адкрыты доступ, з'явілася багата занепакоеных. Гэта і краіны Балтыі, і Польшча, і Украіна. Для апошняй наўпроставая пагроза з поўначы — «страшны сон» ад самага пачатку расійскага ўварвання на Данбас.

А што беларусы? Толькі за апошнія месяцы было агучана безліч змрочных сцэнараў. Пачынаючы ад таго, што расійскія войскі могуць зайсці і застацца ў выглядзе вайсковай базы, і заканчваючы непасрэднай зменай існуючага палітычнага ладу і анексіяй Беларусі накшталт анексіі Крыму Пуціным у 2014-м.

Падобна на тое, што напружваюць вучэнні не толькі нацыяналістаў, якія традыцыйна нервова рэагуюць на трыкалоры і «чоканне» людзей у вайсковай форме, але і кіраўніка дзяржавы. Разам з тым, Лукашэнка публічна захоўвае поўны спакой. Ці шчыра? Мы гэтага не ведаем.

Цікава іншае. Фактычна, мы дажылі да таго часу, калі любыя вайсковыя манеўры з удзелам Расіі з'яўляюцца патэнцыйна небяспечнымі. Бо дзеянні Масквы часцяком абсалютна не прадказальныя і нават ірацыянальныя, пра што сведчаць авантуры з Крымам, Данбасам і Сірыяй. Калі раней гэта былі аддаленыя кропкі, кшталту Чачні альбо Грузіі, то зараз кожны бачыць: вайна зусім побач, можа палыхнуць і ў нас...

Страшны не той факт, што мы маем падобнага неўтаймаванага суседа на сваёй лесвічнай пляцоўцы, не. Страшна, што сусед увесь час спрабуе давесці, што мы з ім — сваякі, што ён мае спадчыннае права і на нашу кватэру, што дакладна ведае, дзе ляжыць ключ ад нашых дзвярэй (вядома ж, пад дыванком, ад каго тут што хаваць?).

У выпадку той жа Грузіі ды Украіны, жыхары кватэр ведалі, дзе чыё жытло, і развітвацца з ім не мелі аніякага жадання. А ў Беларусі? Татальная русіфікацыя, культ СССР на экранах тэлебачання, у школьных падручніках ды ў выглядзе помнікаў у кожным райцэнтры, засілле расійскіх СМІ, савецкія традыцыі ў войску...

Выглядае на тое, што кіраўнік дзяржавы толькі зараз пачынае асэнсоўваць усю небяспеку сітуацыі, таму і загаварыў пра пачаткі беларускай дзяржаўнасці ад Полацкага княства, а не з Кіеўскай Русі ці з 1917 года. Пры гэтым ключ ад кватэры па-ранейшаму ляжыць пад дыванком: ёсць палітычныя і вайсковыя дамовы, якія моцна прывязваюць Беларусь да Расіі.

Нам падаецца, што ў расійскіх СМІ ўжо зараз вядзецца інфармацыйная вайна супраць Беларусі. З аднаго боку, гэта слушна: то тут, то там ідзецца аб «нацыяналізме, які падымае галаву», альбо міфічнай «ліцвіна-бандэраўшчыне». З іншага боку, у параўнанні з істэрыяй, якая разгарнулася вакол Майдану ў Кіеве ў 2013–2014 гадах напярэдадні ўварвання на Данбас, — гэта кропля ў моры. Расіян пакуль яшчэ не падрыхтавалі да «масакры» ў Беларусі.



**Ключ ад кватэры па-ранейшаму ляжыць пад дыванком: ёсць палітычныя і вайсковыя дамовы, якія моцна прывязваюць Беларусь да Расіі**

Палітычна далучэнне Беларусі магло б стаць, канешне, «вішанькай на торце» для расійскага электарату напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў ва ўсходніх суседзяў. А калі не атрымаецца альбо атрымаецца так, што лепш бы не атрымлівалася?.. Рызыкі занадта вялікія.

Зараз, здаецца, усе бачаць, што і Захад, у выпадку чаго, не будзе марудзіць з працягам санкцыяў, і самі «русскоговорящие» на прасторах СНД далёка не заўсёды ў захапленні ад перспектывы стаць часткай Расіі: з Харкавам і Адэсай крамлёўскія стратэгі так ужо пракалоліся. Адна справа — спяваць нападпітку «Подмосковные вечера», іншая — свядома адмовіцца ад звыклага ладу жыцця ды пагадзіцца на паўсюдную карупцыю, міліцэйскае бязмежжа, куды большае за сённяшняе, перадзел зямлі і маёмасці, вайсковыя авантуры ва ўсім свеце з удзелам нашых суайчыннікаў і гэтак далей.

Можна нават заглыбіцца ў канспіралогію і прыйсці да думкі, што паколькі ва ўладаў рукі звязаныя дамовамі, карт-бланш на больш шырокую працу ў нацыянальным полі даецца грамадскім арганізацыям ды актывістам. Маўляў, мы, наверсе, з Расіяй будзем сябраваць, а вы тут гуляйцеся, працуйце.

І тут ужо паўстае пытанне да кожнага з нас: што мы можам зрабіць для захавання і абароны незалежнасці? Ці здольныя мы на нешта акрамя акцыі пратэсту на Кастрычніцкай плошчы з дзясяткам удзельнікаў, гнеўных пастоў у сацыяльных сетках ды падпісання бясконцых петыцыяў? Што важнейшае: дэмакратычныя каштоўнасці альбо незалежнасць у любым выглядзе?

Падаецца, што вучэнні пройдуць, а пытанні — застануцца. Ад адказу на іх будзе залежыць, у тым ліку, ці будзе меншасць, якая думае нацыянальнымі катэгорыямі, гульцом у беларускай палітыцы альбо застанецца і надалей шумным гета, якое выбудоўвае вакол сябе сцяну: ці тое, каб чужыя не ўварваліся, ці тое, каб свае не разбегліся.

# Выратаваць Міхаіла Жамчужнага

Дзяніс МІКАЛАЕЎ

**На сядзібе БНФ 15 жніўня прайшла прэс-канферэнцыя, нагодай для якой сталі чарговыя здзекі з палітвязня Міхаіла Жамчужнага, нядаўна пераведзенага ў калонію ў Горках.**

Сустрэча была арганізаваная грамадскай установай «Платформа». Удзел у ёй прынялі доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў, актывіст анархісцкага руху Мікола Дзядок, маці палітвязня Аляксея Жалнова Яўгенія Жалнова, праваабаронцы Андрэй Бандарэнка («Платформа»), Ганна Шапуцька (Форум «Свабоду палітвязням Беларусі») і Васіль Завадскі («ТаймАкт»).

Напачатку Андрэй Бандарэнка распавёў аб тым, што ў выніку шэрагу правакацый Міхаіл апынуўся перад пагрозай атрымання так званага «нізкага сацыяльнага статусу». Прадстаўнікі адміністрацыі паспрабавалі прымусіць яго пайсці ў 13-ы атрад, своеасаблівы «анклаў», дзе знаходзяцца асуджаныя з гэткім статусам. Міхаіл адмовіўся, за што быў двойчы накіраваны ў ШІЗА. Яго далейшае становішча вельмі не трывалае.

На сённяшні дзень Міхаіл ужо другі раз з моманту прыезду ў ПК-9 адбывае пакаранне ў штрафным ізалятары, больш за тое, дадаў праваабаронца, існуе небяспека ўзбуджэння новай крымінальнай справы па артыкуле 411 КК РБ (Злоснае непадпарадкаванне адміністрацыі папраўчай установы).

Актывіст анархісцкага руху Мікалай Дзядок, які ў 2015 годзе сам адбываў пакаранне ў горкаўскай калоніі, адзначыў, што ПК-9 стала сапраўднай прэс-зонай для палітычных, дзе нефармальныя турэмныя нормы з'яўляюцца інструментам падаўлення непакорных арыштантаў, які ўжываецца праз іншых вязняў, што працуюць на адміністрацыю.

У той жа час былы палітвязень дадаў, што прэсінгу ў калоніях падвяргаюцца не толькі палітычныя (аб справах якіх грамадства даведваецца дзякуючы падтрымцы СМІ і праваабаронцаў), але нашмат часцей — звычайныя вязні, якія перажываюць свае няшчасці моўчкі, бо не маюць да каго звярнуцца. Таксама, лічыць Мікалай Дзядок, тое што адбываецца з Міхаілам Жамчужным, — гэта праблема не толькі горкаўскай калоніі, і нават не толькі МУС, а бяда ўсяго грамадска-палітычнага ладу краіны. Бо як зэкі, так і адміністрацыя — дзеці сучаснага грамадства, што ўвабралі ў сябе яго аўтарытарныя каштоўнасці і практыкі, якія і рэплікуюць за турэмнымі сценамі. Турма — гэта копія нашага грамадства ў мініяцюры, і рэфармаваць яе, не змяняючы ўсю палітычную сістэму, не атрымаецца.

Былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў, характарызуючы сучасную турэмную сістэму Беларусі, вызначыў яе як «сталінскую» і назваў галоўнай праблемай менавіта гістарычную пераемнасць карных устаноў Беларусі і ГУЛАГа.

«Нашы турмы — закрытыя для грамадскасці. Менавіта таму там з вязняў могуць здзекавацца», — сказаў Пастухоў, дадаўшы, што Беларусі патрэбная неадкладная рэформа ўсяго пенітэнцыярнага корпусу, і нават прапанаваў у якасці эксперыменту стварыць у Беларусі прыватную папраўчую ўстанову.

Падводзячы вынік пасяджэння, Андрэй Бандарэнка падкрэсліў, што спробы замежных структур замаўчаць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі, у тым ліку з палітвязнямі, толькі развязваюць рукі ўладзе, і тое, што адбываецца з Міхаілам Жамчужным, — яшчэ адно таму пацвярджэнне. «Платформа» ўжо накіравала ў Генеральную пракуратуру заяву аб катаваннях Міхаіла з дапамогай крымінальных паняцця́ў. У бліжэйшых планах — звярнуцца да прадстаўніцтва Еўрасаюза і ў міжнародныя праваабарончыя структуры.

# Грамадскі сектар — гета ці народнікі?

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Чым ёсць грамадскія арганізацыі сёння? Адказ на гэта пытанне прагучаў на прэзентацыі вынікаў ацэнкі арганізацый грамадзянскай супольнасці (АГС) Беларусі.**

Прэзентацыю ладзіла Міжнароднае асветніцкае грамадскае аб'яднанне «АКТ». Ацэнка за 2016 год праходзіла ў 69 краінах свету, у тым ліку ў 24 краінах Еўразіі.

На 1 студзеня 2017 года ў Беларусі налічвалася 2731 зарэгістраваная грамадская арганізацыя. Паводле ацэнак экспертаў, грамадзянскія супольнасці за 2016 год умацаваліся ў такіх краінах, як Латвія, Румынія і, як не дзіўна, Беларусь. Індэкс устойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці ў Беларусі — 5,5 бала. Гэта слабая ўстойлівасць, якая знаходзіцца на апошняй прыступцы з трох магчымых. Усё з-за неспрыяльнага прававога асяродку і фінансавай няўстойлівасці ў краіне, слабага даверу да грамадскіх арганізацый і нізкага грамадскага іміджу.

Але ў той жа час, у параўнанні з вынікамі 2015 года, пазіцыя АГС у Беларусі ўмацавалася. Эксперты звязалі гэты факт з умацаваннем арганізацыйнага патэнцыялу. У беларускіх арганізацыях шмат увагі надзяляецца навучанню валанцёраў і клопату аб супрацоўніках. Таксама эксперты заўважылі пэўныя поспехі ў прасоўванні інтарэсаў арганізацый, паказное пацяпленне ў адносінах паміж АГС і дзяржавай. Напрыклад, на грамадскае тэлебачанне часцей сталі запрашаць экспертаў з АГС.

Нельга адмаўляць той факт, што ў Беларусі ўзрастае колькасць ініцыятыў, але скарачаецца колькасць традыцыйных АГС-«дыназаўраў». Але ці ўсе ініцыятывы дапасуюць сябе да арганізацый грамадзянскай супольнасці? Не. Некаторыя не любяць, калі іх называюць «грамадскімі актывістамі».

Уладзімір Корж, кіраўнік Міжнароднага асветніцкага грамадскага аб'яднання «АКТ», лічыць, што больш каштоўнымі з'яўляюцца арганізацыі грамадзянскай супольнасці, чым новыя ініцыятывы: «Які сэнс у актыўнасці, калі ты не можаш зразумець, у чым заключаецца тваё прызначэнне? У Беларусі мусіць адбыцца рэформа ў гэтай галіне. Бо дзяржава рэфармуецца. А ці рэфармуецца ў нас грамадзянская супольнасць?»

Валерый Журакоўскі, прадстаўнік міжнароднага асветніцкага грамадскага аб'яднання «АКТ», выказаў наступную думку: «Мы так доўга пераконваем еўрапейцаў, што ў Беларусі грамадзянскія супольнасці кволыя і што нам трэба дапамагаць, што самі паверылі ў гэты міф». На думку Валерыя, у грамадстве не адбываецца нічога новага. Ініцыятывы заўсёды нараджаліся і паміралі. І гэта абсалютна нармальны працэс.

Але, калі кіраўнік арганізацыі хоча, каб яна пратрывала працяглы перыяд, то ён мусіць яе рэгістраваць, каб плаціць людзям заробак. Таму выйсце — стварэнне новых ініцыятыў, якія паступова будуць пераходзіць у статус зарэгістраваных арганізацый.

Кіраўніца арганізацыі «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын» Вольга Янчук не пабаялася назваць сваю арганізацыю «гета»: «Наша арганізацыя дапамагае жанчынам, якія церпяць хатні гвалт. І мы проста не можам ісці ў народ, не можам пускаць людзей з вуліцы на кансультацыі з жанчынамі, не можам пусціць працаваць тых, хто не мае адпаведнай адукацыі». Тым самым Вольга Янчук выказала думку пра тое, што сярод грамадскіх арганізацый мусяць быць і гета. І гэта павінна нармальна ўспрымацца супольнасцю.

Але, ствараючы гета ў АГС, тым самым кіраўнікі не даюць магчымасць валанцёрам атрымліваць адпаведны досвед у дабрачыннай працы.

Андрэй Ягораў, дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі, перакананы, што фінансавую ўстойлівасць уратуюць толькі спрыяльныя ўмовы ў краінах: «Калі казаць іншымі словамі, то такую ўстойлівасць можа падарыць толькі свабода. Няма свабоды — няма фінансавай устойлівасці».

Актывісты моладзевых арганізацый перакананыя, што шмат праектаў можна зрабіць без грошай. Тым больш, многія бізнес-кампаніі гатовыя да супрацоўніцтва з АГС.

Пытанне пра фінансавую ўстойлівасць АГС выклікала шмат дыскусій. З аднаго боку, грамадскія арганізацыі ўсё больш звяртаюцца да краўндфандынгавых платформ, а з іншага — замежныя донары імкліва скарачаюць бюджэт АГС.

Да прыкладу, за 2016 год Украіна сабрала 800 тысяч долараў толькі на дабрачынныя праекты. Дык чым з'яўляецца краўндфандынг для арганізацый грамадзянскай супольнасці сёння: уратаваннем або часовым адпачынкам? На гэтае пытанне зможа адказаць толькі час.

### Даведка

Індэкс устойлівасці арганізацый грамадзянскай супольнасці распрацаваны Агенцтвам ЗША па міжнародным развіцці (USAID) і ацэньваецца ў Беларусі сумесна з міжнародным асветніцкім грамадскім аб'яднаннем «АКТ». Індэкс падлічваецца на працягу 20 гадоў больш чым у 70 краінах свету. Сёлета індэкс ацэньваўся ў 69 краінах свету, у тым ліку ў 24 краінах Еўразіі.

Індэкс ацэньвае агульны характар асяродку для дзейнасці арганізацый грамадзянскай супольнасці і различаецца па сямі параметрах: прававы асяродак, арганізацыйны патэнцыял, фінансавая ўстойлівасць, адвакатаванне (прасоўванне грамадзянскіх інтарэсаў), аказанне паслуг, інфраструктура і грамадзянскі імідж. Для ацэнкі выкарыстоўваецца сямібальная шкала, дзе найвышэйшая адзнака — адзінка.

# «Гэта замоўленае мерапрыемства»

**Кіраўнік Беларускага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзь Фядыніч пракаментаваў «Салідарнасці» інфармацыю аб прад'яўленні яму абвінавачванняў па крымінальным артыкуле аб ухіленні ад выплаты падаткаў.**



Нагадаем, што з прафсаюзнага лідара была ўзятая падпіска аб нявыездзе, хоць раней сілавікі ўжываць яе не сталі.

— Мне потым прыйшоў ліст, пасля таго, як я быў у ДФР, — за подпісам намесніка начальніка. Ён прыняў рашэнне аб маім нявыездзе. У прынцыпе, гэта рашэнне было, проста я нідзе падпіс не падпісваўся. І зараз яны прадубльвалі тое, што ўжо было зроблена, — патлумачыў Генадзь Фядыніч дзеянні сілавікоў.

Старшыня РЭП таксама падкрэсліў, што як ён, так і яго калега Ігар Комлік (затрыманы сілавікамі бухгалтар прафсаюза) упэўнены ў сваёй невінаватасці.

— Гэта замоўленае мерапрыемства — я і мой калега Ігар тут віны не прызнаем, таму што мы ні ў чым не вінаватыя, — адзначыў Фядыніч.

Пры гэтым суразмоўца дадаў, што пакуль «складана сказаць, чаму не адпускаюць Ігара Комліка — бо яму цалкам маглі зрабіць падпіску аб нявыездзе».

Таксама прафсаюзны лідар пракаментаваў версію пра тое, што з дапамогай крымінальнай справы ўлада спрабуе нейтралізаваць незалежныя прафсаюзы напярэдадні восені, калі магчымы рост сацыяльнай незадаволенасці насельніцтва.

«Ім трэба было правесці зачыстку — таго ж Фядыніча «падвесіць» пад крымінальны артыкул. Можна меркаваць на восень усё, што заўгодна — але яна можа быць і гарачай, і не гарачай. Гэта залежыць ад таго, як складзецца сітуацыя на прадпрыемствах, які будзе ўзровень даходу людзей. Але з улікам таго, што з-за Дэкрэту №3 падымаліся людзі цалкам не палітызаваныя і далёка не сябры прафсаюза, — справа, у першую чаргу, у незадаволенасці людзей. Узбуджэнне крымінальнай справы вельмі складана назваць непалітызаваным, калі нават захацець. Але скажу, што паралізаваць працу прафсаюза будзе праблемна, бо мы цяпер робім усё, каб праца працягвалася. Мы будзем і надалей падтрымліваць людзей», — сказаў Генадзь Фядыніч.

gazetaby.com

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Спыніцеся!

Сяргей САЛАЎЁЎ


Фота www.rebenok.by

**Шкада дзяцей, шкада бацькоў, шкада настаўнікаў... Прыкладна так можна ахарактарызаваць становішча ў нашай сістэме адукацыі. Усё таму, што чыноўнікі папросту не могуць спыніцца.**

Адукацыя — гэта такая сфера, якая працуе на будучыню. Вынікі яе працы нельга пабачыць адразу, і нават праз год. І нават праз два гады. Яны становяцца збольшага бачныя хіба тады, калі былы школьнік заканчвае ВНУ альбо іншую навучальную ўстанову. І тады ўжо бачна, ці дала школа тыя веды, якія яму былі патрэбныя. Ці скіравала яго ў патрэбным жыццёвым напрамку? Ці надала прагу вучыцца і развівацца далей?

Што ж тычыцца беларускай сістэмы адукацыі, то я нават не ведаю, як можна ацаніць яе эфектыўнасць. Усё таму, што чыноўнікі ад адукацыі вельмі прагнуць нешта рабіць. Прычым, рабіць, не зважаючы на канчатковы вынік. Бо заробак іх, падаецца, залежыць не ад выніку, а ад нібыта зробленай працы.

У мінулым нумары мы пісалі, напрыклад, пра стандарт школьнай формы, які павінен быць распрацаваны і ўведзены з гэтай зімы. На гэтым жа тыдні Аляксандр Рыгоравіч запатрабаваў увесці той стандарт з 1 верасня. То бок, праз два тыдні. «Формула адна: каб 1 верасня дзеці былі аднолькавыя. Не ў тым плане, што яны павінны быць апранутыя ў чорна-белыя фартушкі, гольфы або сукеначкі. А каб не вылучаліся дзеці з сем'яў, якія не так багатыя сёння. Мы павінны апрануць годна да 1 верасня ўсіх дзетак», — запатрабаваў Лукашэнка.

Канешне, узнікае пытанне, чаму чыноўнікі, якія прысутнічалі на нарадзе ў правадыра краіны, не паведамілі пра тое, што гэтае пытанне за два тыдні не вырашыш — беларускі легпрам папросту надарвецца, спрабуючы пашыць за чатырнаццаць дзён школьную форму для мільёна з гакам навучэнцаў. Чаму не расказалі яму пра маючы адбыцца стандарт? І калі яны маўчаць, не наважваючыся выказаць свае думкі, сваё бачанне сітуацыі і праблемы ды спосабы яе вырашэння, — чаму яны могуць навучыць нашых дзяцей? Таксама маўчаць і не мець уласнага меркавання?

Цытата Лукашэнкі мне таксама нагадала і анекдот пра ўнучку дзекабрыста, якая распытвала ўдзельнікаў кастрычніцкага перавароту 1917 года, чаго ж дамагаюцца рэвалюцыянеры. Ёй адказвалі — каб не было багатых. «А мой дзед хацеў, каб не было бедных», — расчаравалася яна.

У фразе кіраўніка дзяржавы пра дзяцей і сем'і, якія «не так багатыя», — якраз квінтэсенцыя беларускай эканамічнай палітыкі. Усе павінны быць роўныя, хоць і ў жабрацтве. Галоўнае — каб не вылучаліся.

Але гэта ж тычыцца не толькі дзетак! У высокіх кабінетах задумаліся пра тое, каб апрануць у школьную форму яшчэ і настаўнікаў! Маўляў, чаму дзеці павінны вытрымліваць «дзелавы стыль», а для настаўнікаў гэты дрэс-код неабавязковы?

Сапраўды, чаму? Давайце пераапранем у гарнітур фізрука — хай пабегае крос у пантофлях. Пераапранем і настаўніка працоўнага выхавання — хай ён у дзелавым гарнітуры пакажа дзецям, як карыстацца рубанкам альбо зубілам. А настаўніца хіміі хай праводзіць вопыты з сернай кіслатой у пантофлях на платформе, і ні ў якім разе не ў белым халаце!

Школа не мусіць стаць казармай. Вучыцца павінна быць не толькі цікава, але і зручна. А калі ў школе будуць дбаць толькі пра тое, каб усе былі аднолькавыя... Такога ўсё роўна не будзе — не спадзявайцеся. Папросту таму, што ўсе людзі — розныя.

Але галоўнае — нават не школьная форма. Новы міністр адукацыі раптам пачаў казаць, што яго не задавальняе ўведзеная ўсяго дзесяць гадоў таму дзесяцібальная сістэма ацэнкі. «Шмат пытанняў ёсць па дзясяцібальнай сістэме. Гэта часам бывае і суб'ектывізм у ацэнцы. І ў нас няма нездавальняючай адзнакі. Таму што адзін бал — гэта таксама ацэнка ведаў. Раней разумелі: адзінка, двойка — гэта нездавальняючыя адзнакі. Таму трэба вынесці на абмеркаванне грамадскасці. Можа быць, і вярнуцца да пяцібальнай сістэмы. Каб кожны разумеў: чатыры — значыць, чатыры. Пяць — значыць, выдатнік. Няма суб'ектывізму. Што такое 4 з мінусам, 4 і 4 з плюсам — 6, 7, 8. Дзе мяжа паміж шасцёркай і сямёркай, сямёркай і васьмёркай?» — заявіў віцэ-прэм'ер Васіль Жарко па выніках рабочай сустрэчы з Лукашэнкам.

Выбачайце, калі віцэ-прэм'ер не разумее такіх простых рэчаў — трэба гнаць яго ў шыю. За трызненне. Па-першае, суб'ектывізм у ацэнках будзе прысутнічаць заўсёды, і не трэба гэтага палохацца. Бо настаўнік лепш ведае вучня, чым віцэ-прэм'ер. І часам можа паставіць яму вышэйшую адзнаку, каб ацаніць яго намаганні альбо заахвоціць працаваць далей. Па-другое, якой бы ні была шкала адзнак — пяцібальная, дзесяцібальная, дванаццацібальная, «кол» — гэта заўсёды «кол».

І тут таксама мы пераходзім на больш важныя праблемы. Чаму ў нас з эканомікай так кепска, чаму мы не можам выкараскацца з крызісу? Зараз зразумела: таму што нашы высокія чыноўнікі (а віцэ-прэм'ер, дэ-факта — трэцяя асоба ў краіне!) не бачаць розніцы паміж «шасцёркай і сямёркай, сямёркай і васьмёркай».

Прапаную пры конкурсе на такую высокую пасаду даваць прэтэндэнтам задачкі па матэматыцы для першага класа. Каб яны паставілі паміж шасцёркай і сямёркай знакі «больш», «менш» альбо «роўна».

І трэба яшчэ нагадаць спадару Жарко: у нас дванаццацігадовая сістэма навучання. Калі зараз вярнуцца да савецкай сістэмы адзнак, то сённяшнія выпускнікі проста ашалеюць. Яны ўсё жыццё карысталіся дзесяцібальнай, а зараз будуць разбірацца ў «чацвёрках з плюсам». Віцэ-прэм'ер хаця б уяўляе, колькі давядзецца разграбаць скаргаў на той самы «суб'ектывізм», калі адзнака ідзе ў атэстат?

Не ўяўляе, таму што скаргі будзе разграбаць не ён.

І напрыканцы наш торт шчодра пасыпаны разнастайнымі «вішанькамі». Наш віцэ-прэм'ер плануе скарачаць колькасць навучальных месцаў у ВНУ — таму што людзей з вышэйшай адукацыяй у два разы больш, чым з сярэдняй ці сярэдне-спецыяльнай. Плануецца скарачаць і колькасць саміх ВНУ: «У краіне 51 ВНУ. З іх 9 — прыватнай формы ўласнасці і 42 дзяржаўныя. І я разумею, што іх, напэўна, для нашай невялікай краіны шмат», — лічыць Жарко. Плануецца, што завочная форма навучання стане ці не цалкам платнай. Прычым, для выпускнікоў сярэдніх школ — толькі праз год стажу працы, «каб выпускнік меў навыкі і разумеў, на каго ён ідзе, каб нейкая спецыяльнасць ужо была абраная».

Нічога, што выпускнікі сярэдніх школ, якія не паступілі ў ВНУ, амаль адразу ідуць у войска? Які год стажу працы?

Выбачайце, але наша сістэма адукацыі, якой бы яна ні была, застанецца здаравейшай, калі ўсе ініцыятывы, выказаныя на прэзідэнцкай нарадзе, папросту сабатаваць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Мікалай Статкевіч



**Адзін з лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэсу, экс-кандыдат у прэзідэнты нечакана даведаўся, што яго аштрафавалі, і нават «пасадзілі».**

Аказваецца, яшчэ 9 жніўня суд Ленінскага раёна Мінска пакараў палітыка 15 суткамі арышту за святкаванне 3 ліпеня гадавіны вызвалення Мінска ад фашыстаў. А яшчэ раней суд Савецкага раёна прысудзіў яму 50 базавых велічынь штрафу за ўскладанне 8 мая на Вайсковых могілках кветак да магіл савецкіх салдат, якія загінулі пры вызваленні сталіцы.

Тым не менш, рэальна арыштоўваць Статкевіча ўлады пакуль не збіраюцца, нягледзячы на тое, што палітык ні ад каго не хаваецца. Шмат хто звязвае гэта з тым, што 8 верасня ў Мінску павінна традыцыйна адзначацца гадавіна бітвы пад Оршай — Дзень беларускай вайсковай славы, свята, якое ў свой час запачаткаваў менавіта Статкевіч.

Зразумела, з гэтай нагоды Статкевіч плануе вулічную акцыю. І, зразумела, улады паспрабуюць яго арыштаваць непасрэдна перад яе пачаткам. Шмат хто лічыць, што менавіта таму палітыка і асудзілі таемна, і не імкнуцца пакуль прывесці прысуд у выкананне.

### Алесь Лагвінец



**Жонка палітыка і грамадскага дзеяча выклала на сваёй старонцы ў Фэйсбуку фатаграфію дома, які яны з мужам будуюць непадалёк ад Мінска.**

Ўсе адразу пачалі лічыць грошы Лагвінца, кажучы, што «бедны апазіцыянер» будуе дом за паўмільёна долараў.

Сам Лагвінец вымушаны быў патлумачыць, што паўмільёна — гэта відавочнае перабольшванне. Ён будуе дом з 2013 года на ўчастку, які атрымала жонка. Дапамагае яму цесць-будаўнік, шматлікія сябры, ды і сам ён цягае цэглу. Напрыклад, металадахоўку вазілі аж з Беластоку, дзе яна мінімум у два разы танней. «Мае сябры дапамагалі мне яе перавозіць (трэба было перавезці тры з паловай тоны, па 50 кілаграмаў на чалавека) — і на машынах, і на аўтобусе», — распавёў Лагвінец.

Участак жонка атрымала яшчэ да таго, як пабралася шлюбам з палітыкам. Пабудаваць хаця б «каробку» трэба было за тры гады, таму «на гэта былі кінутыя ўсе магчымыя і немагчымыя сілы, без дапамогі бацькоў мы адназначна не ўклаліся б у тэрміны», тлумачыць Лагвінец.

Пры гэтым Алесь Лагвінец з жонкай, дарэчы, не беспрацоўныя.

Што ж да паўмільёна долараў, то Лагвінец кажа: «Калі мне дадуць паўмільёна долараў, я з маім сённяшнім вопытам будаўніцтва і кантактамі такіх дамоў шмат пабудую!»

### Святлана Алексіевіч



**Нобелеўская лаўрэатка наведала Капаткевічы, дзе яна навучалася ў школе, і, нечакана для сабе, правяла там мітынг. Прынамсі, так лічыць Петрыкаўскі райвыканкам.**

Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення БАЖ Анатоль Гатоўчыц, які арганізаваў прыезд пісьменніцы, планаваў, што гэта будзе шырокая сустрэча з землякамі, на якую змогуць прыйсці ўсе жадаючыя жыхары мястэчка Капаткевічы. Аднак Петрыкаўскі райвыканкам запатрабаваў падаць заяўку як на масавае мерапрыемства. А для гэтага арганізатарам сустрэчы трэба было падаваць на яе заяўку — як на масавае мерапрыемства — за 15 дзён да падзеі, чакаць дазволу і заключыць на платнай аснове за кошт арганізатара дамовы з міліцыяй, хуткай дапамогай і прадпрыемствам па ўборцы тэрыторыі.

У выніку Алексіевіч усё ж сустрэлася з жыхарамі Капаткевічаў у памяшканні мясцовай школы, але ў выглядзе «сустрэчы выпускнікоў».

Раней планавалася, што сустрэча Нобелеўскай лаўрэаткі з чытачамі ў Гомелі можа адбыцца ў абласной бібліятэцы. Аднак дырэкцыя гэтай установы парушыла папярэднюю дамоўленасць, спаслаўшыся на занятасць аўдыторыі іншымі мерапрыемствамі.

# Мясцовыя саветы: перадвыбарчы пейзаж

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Праз паўгода, то бок дзесьці ў студзені-лютым 2018-га, у Беларусі павінны адбыцца выбары ў мясцовыя саветы. Звычайна мясцовыя выбары ў Беларусі мала каго цікавяць.**




### Абыякавасць выгадная

Гэта ў Еўропе працэнт удзелу грамадзян у такіх выбарах звычайна вышэйшы, чым у парламенцкай выбарчай кампаніі. Бо штодзённае жыццё і побыт людзей больш залежыць ад мясцовай улады, чым ад парламента. А ў Беларусі ўсё па-іншаму. Бо, па-першае, насамрэч выбараў у нас няма з 1996 года. Усё, што адбываецца апошнія 20 гадоў, — гэта імітацыя выбарчага працэсу.

Па-другое, няма і мясцовага самакіравання. Саветы — гэты рудымент савецкага дзяржаўнага ладу. Яны не маюць рэальнай улады, з'яўляюцца пятым колам у дзяржаўнай калясніцы, дэкаратыўным фасадам беларускай палітычнай сістэмы (уласна, як і парламент, суд, прафсаюзы і інш.). Маўляў, трэба ж, каб і ў нас было, як людзей: у Еўропе ёсць мясцовае самакіраванне, няхай і ў нас будзе нешта такое.

Нават парламенцкія выбары ў Беларусі ўлады спрабуюць правесці па-за палітычнай прасторай, падштурхоўваюць кандыдатаў у бок абмеркавання толькі праблем выбарчай акругі. А ўжо мясцовыя выбары тым болей зводзяцца толькі да пытанняў, якія хвалююць жыхароў таго ці іншага рэгіёну.

Дарэчы, такая сітуацыя выгадная ўладам. Бо праўладныя кандыдаты — гэта, як правіла, нейкія начальнікі. У іх больш магчымасцяў вырашаць бытавыя праблемы населеных пунктаў. А ад апазіцыі кандыдатамі ідуць у лепшым выпадку інтэлігенты (дактары, настаўнікі), а ў горшым — беспрацоўныя ці прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. У іх апрыёры менш магчымасцяў адрамантаваць дарогу, жытло ці арганізаваць аўтобусны маршрут.

### Новыя ўмовы і вяртанне ў 1990-я

Але гэтыя выбары будуць праходзіць у пэўным сэнсе ў новых умовах. Вясновыя акцыі пратэсту паказалі, што адбываецца крызіс беларускай сацыяльнай мадэлі. Эканамічная рэцэсія двух апошніх гадоў спарадзіла ў грамадстве ідэалагічны крызіс. Падобная сітуацыя здарылася ў пачатку 1990-х гадоў пасля краху СССР і сацыялістычнай сістэмы. Разбурэнне ранейшай карціны свету выклікала ў масавай свядомасці псіхалагічны шок. Стварэнне Лукашэнкам беларускай сацыяльнай мадэлі дазволіла пераадолець яго, стварыць новую светапоглядную сістэму каардынатаў.

І вось цяпер у нейкай меры мы вяртаемся да пачатку 1990-х гадоў. Ва ўяўленнях кіруючай эліты і грамадства бурыцца звыклы светапарадак, ранейшая сістэма каштоўнасцяў. Сярод насельніцтва з'явілася расчараванне і роспач. Прыходзіць усведамленне, што крызіс, падзенне ўзроўню жыцця — гэта не часовыя цяжкасці, выкліканыя вонкавымі чыннікамі, як спрабуе давесці ўлада, а надоўга, можа назаўсёды. Гэта ўжо знайшло адлюстраванне ў сацыялагічных апытаннях. З'яўляецца ўсведамленне, што беларуская сацыяльная мадэль — гэта тупіковы варыянт, што 20 гадоў Сусанін вёў краіну не туды.

Дэкрэт №3 аб дармаедах даваршыў агульную карціну. Ён ударыў па маральнаму аўтарытэту ўладаў і прэзідэнту, у прыватнасці, спарадзіў этычны крызіс у адносінах паміж дзяржавай і народам. Бо абвяшчаць дармаедамі людзей, якія апынуліся ў бядзе, без працы, ды яшчэ прымушаць іх плаціць за гэта штраф, — гэта насельніцтва палічыла дзікай несправядлівасцю.

Аляксандр Лукашэнка тое адчувае, таму ліхаманкава імкнецца памяняць сітуацыю. Ледзь урад і выканаўчая вертыкаль паспелі распрацаваць графікі выхаду да канца года на сярэдні заробак у краіне ў 1000 рублёў, як кіраўнік дзяржавы паспяшаўся ашчаслівіць беларусаў новай дзяржаўнай шчодрасцю. Мінулым тыднем ён даручыў у будучым годзе давесці сярэдні заробак да 1500 рублёў. Такім чынам, ён спрабуе аднавіць сацыяльны кантракт з грамадствам.

Не ўпэўнены, што такім спосабам гэта ўдасца. Бо беларусы памятаюць, што абяцанне давесці заробак да 500 долараў раней давалася ўжо два разы. І ўсялякі раз заканчвалася кепска — вялікай дэвальвацыяй. То бок у масавай свядомасці грамадства згадка пра гэты піяр-ход звязана з псіхалагічнай траўмай.

Акрамя таго, 70% беларусаў атрымліваюць менш афіцыйнага сярэдняга заробку. То бок ён выцягваецца за кошт росту даходаў у высокааплатных работнікаў. У рэгіёнах не тое, што 1000 рублёў, а нават 500 рублёў лічыцца добрым заробкам. Таму ўсе развагі Лукашэнкі пра 1000 ці 1500 рублёў выклікаюць у ягонага электарату толькі раздражненне, даюць адваротны эфект.

І гэта стварае большыя магчымасці для апазіцыі ў камунікацыі з электаратам. Думаю, гэтым разам «дзіцячая хвароба левізны» ў дэмакратычных сілах Беларусі ў выглядзе байкоту пераадоленая. Мясцовыя выбары ў меншай ступені патрабуюць адзінства апазіцыі, што, як вядома, з'яўляецца вялікай праблемай для апанентаў існага рэжыму.

### Патрэбна альтэрнатыва

Недавер насельніцтва да ўлады стварае сітуацыю, калі ад апазіцыйных кандыдатаў у меншай ступені патрабуецца канструктыўная праграма. Галоўнае, апаненты рэжыму павінны дэманстраваць альтэрнатыву існай уладзе. Калі існуе крызіс даверу да ўладных інстытутаў, то крытыка ўладаў можа даць палітычныя балы. Так было падчас гарбачоўскай перабудовы, калі людзі станавіліся дэпутатамі на лозунгах «Далоў!», «Ганьба!», «Так жыць нельга!».

Таму апазіцыянерам наўрад ці варта спаборнічаць з прадстаўнікамі ўлады за тое, хто лепш адрамантуе дах, а акцэнтаваць увагу на няздольнасці

**Прыходзіць разуменне, што крызіс, падзенне ўзроўню жыцця — гэта не часовыя цяжкасці. З'яўляецца ўсведамленне, што беларуская сацыяльная мадэль — гэта тупіковы варыянт, што 20 гадоў Сусанін вёў краіну не туды**

вертыкалі вырашыць сацыяльныя праблемы насельніцтва.

Зразумела, апазіцыі таксама варта было б працягваць крытыку непапулярнага ў народзе дэкрэту аб дармаедах. Тым больш, што прэзідэнт не збіраецца яго адмяняць, а значыць, падстаўляецца. Пасланне апазіцыі магло б быць такім: кожны з грамадзян можа аказацца беспрацоўным, і тады яму давядзецца плаціць гэты падатак.

Даволі папулярнай з'яўляецца ідэя выбараў кіраўнікоў гарадоў, раёнаў і абласцей агульным галасаваннем насельніцтва рэгіёну. Думаю, апазіцыі варта было б яе прасоўваць.

Вельмі важна, каб у момант выбараў адбылася палітызацыя грамадства. Як гэта было падчас вясновых акцый пратэсту. Вось калі б выбары адбываліся вясной, то яны маглі б стаць цікавымі. Але за лета ўсё сціхла, зноў стала дамінаваць апалітычнасць і абыякавасць. Калі б апазіцыі ўдалося за восень неяк ажыццявіць палітычную мабілізацыю, то гэта пайшло б ёй на карысць.

Другі момант. Выбары будуць праходзіць у перыяд, калі ўлады імкнуцца зладзіць дыялог з Захадам. Для гэтага трэба прадэманстраваць прагрэс у плане дэмакратызацыі. Вось падчас парламенцкіх выбараў мінулага года двух прадстаўнікоў незалежнага грамадства (Ганну Канапацкую і Алену Анісім) прапусцілі ў Палату прадстаўнікоў. Трэба рабіць наступны крок. Які?

### Апазіцыю прапусцяць?

Гледзячы па ўсім, дэмакратызаваць выбарчы працэс, уносіць сутнасныя змены ў заканадаўства аб выбарах улады не збіраюцца. За гэтую крэпасць яны будуць змагацца да канца. Таму ніякіх ілюзій на гэты конт у апазіцыі не павінна быць. Спадзяванні на тое, што Захад прымусіць Лукашэнку правесці дэмакратычныя выбары, марныя.

Паводле старшыні Цэнтрвыбаркама Ярмошынай, нейкія прапановы ў Выбарчы кодэкс былі гатовыя яшчэ ў пачатку года, нарада ў прэзідэнта анансавалася на сакавік. Сёння ўжо жнівень, а яе няма. Лідзія Ярмошына намякала, што хутка ўжо будзе позна нешта мяняць, бо перад самымі выбарамі ўносіць змены нельга.

Улады збіраюцца праводзіць выбарчую кампанію ў сваёй звыклай манеры, нічога асабліва мяняць не будуць, дый не могуць. За доўгі час існавання аўтарытарызму, адсутнасці рэальных выбараў, яны адвыклі ад канкурэнцыі развучыліся весці рэальную барацьбу. Больш за тое, яны проста не ўмеюць размаўляць з насельніцтвам. Варта ўзгадаць, якімі бездапаможнымі былі кіраўнікі гарадоў, калі А. Лукашэнка загадаў ім выходзіць на плошчу да народа падчас вясновых акцый пратэсту.

У такой сітуацыі прагрэс можна прадэманстраваць толькі ў тым, каб прапусціць у мясцовыя саветы пэўную колькасць апазіцыянераў. Прычым, пажадана, не ў Мінску ці нейкіх буйных гарадах, бо гэта больш небяспечна, а дзесьці на перыферыі.

Варта звярнуць увагу, што вясной адносна масавыя акцыі пратэсту прайшлі не ў Мінску, а ў рэгіёнах: у такіх гарадах, як Гомель, Пінск, Маладзечна, Бабруйск, Орша, Рагачоў. Бо крызіс закрануў правінцыю значна мацней, чым сталіцу. Там недавер да ўлады значна большы. Апазіцыі варта гэта ўлічваць, мець на ўвазе. Можа нават дэмакратычнаму актыву з'ехаць з Мінску ў рэгіёны. Бо там цяпер для іх больш спрыяльная глеба.

Таму можна меркаваць, што палітычная барацьба падчас гэтай выбарчай кампаніі раптам перамесціцца ў рэгіёны. Не выключана, што гэтым разам рэй можа весці правінцыя. І гэта новая з'ява ў беларускай палітыцы.

# Вярнуцца да жыцця пасля псіхічнага захворвання

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**На мінулых выходных «Re1ikt» прысвяціў сольную праграму клубнаму дому «Адкрытая душа», які ладзіць сацыяльна-псіхалагічную рэабілітацыю і падтрымлівае тых, хто пакутуе на псіхічныя захворванні.**




Мінскі клубны дом «Адкрытая душа» створаны ў 2011 годзе грамадскай арганізацыяй «Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў». Ва ўстанове людзі, што сутыкнуліся з наступствамі хваробы, атрымліваюць магчымасць вярнуцца ў свет сяброўства, сям'і, працы, занятасці, адукацыі — сацыялізавацца пасля псіхіятрычных лякарняў. Кожны з наведвальнікаў абірае цікавы для яго накірунак — кухонны, офісны ці творчы — і развівае свае здольнасці і ўменні.

У клубным доме праходзяць майстар-класы, спартовыя заняткі, ёсць курсы шыцця і грання на гітары, тут навучаюць кампутарнай пісьменнасці. Клубны дом існуе фактычна на валанцёрскіх пачатках, а ў яго супрацоўнікаў няма сталай крыніцы прыбытку, каб рэгулярна аддаваць свой час тым, каму ён сапраўды патрэбны. Падчас добраахвотнай «працатэрапіі» наведвальнікі Дома камунікуюць між сабой, што добра адбіваецца на іх псіхічным стане: шмат якія ментальныя хваробы пагрэсуюць ад сацыяльнай ізаляцыі.

Істотна зразумець, што псіхічная хвароба можа напаткаць амаль кожнага, самага здаровага, на першы погляд, чалавека. Як жартуюць псіхолагі: «Усе людзі дзеляцца на добра і кепска адаптаваных неўротыкаў. Кепска адаптаваныя трапляюць у лякарню, а добра адаптаваныя гуляюць па вуліцах». Не кажучы пра спадчынныя захворванні, ніхто не застрахаваны ад смерці блізкіх, звальнення, няўдач у асабістым жыцці. Некаторыя перажываюць такія рэчы самі, а іншым патрэбная дапамога. І часам справа даходзіць да лякарні, пасля якой чалавек можа страціць працу і арыентацыю ў жыцці. На гэтым этапе і патрабуецца рэабілітацыя, якую дзяржава, на жаль, не можа забяспечыць нават жыхарам сталіцы, не кажучы пра рэгіёны. Менавіта таму так істотная дзейнасць грамадскіх арганізацый у гэтай галіне.

З чытачамі «Новага Часу» падзялілася ўласным вопытам перажывання клінічнай дэпрэсіі і адаптацыі пасля яе Рыта (імя не сапраўднае). З часу яе шпіталізацыі прайшло больш за 10 гадоў.

«Зараз ні ў каго, здаецца, не выклікае сумневаў мая псіхічная адэкватнасць. Я працягваю вучыцца, маю шмат замоў як фрылансерка, нармалёвыя адносіны з бацькамі. Праўда, я ў разводзе, у мяне складанасці з камунікацыяй, хранічная непрыязь да «хаджэння строем», у тым ліку да працы ў офісе... Можа, я і дзівачка, але не больш, чым «у сярэднім па лякарні». А ў 19 гадоў мне спрабавалі дыягнаставаць шызафрэнію», — распавядае Рыта.



### Чаму здарылася дэпрэсія?

Рыта мае 2 версіі: рамантычную і празаічную.

«Рамантычная версія: складанасці пасля Плошчы–2006. Я не разумела, як жыць далей у гэтай краіне, і не магла нават падумаць: «А можа з'ехаць?». Безнадзейнасць. Неяк я лягла на ложак паразважаць пра гэта, і фактычна не падымалася з яго некалькі месяцаў. Проста глядзела ў столь. Празаічная версія: у мяне былі складанасці з камунікацыяй, я шукала Бога, гармоніі, і проста «не пацягнула» штодзённасць ва ўмовах студэнцкага інтэрната (хаця жыла там ужо чацверты год)».

Дарэчы, духоўныя пошукі, якія прывялі да псіхічных праблем, згадваюць і некаторыя наведвальнікі Клубнага дома. Магчыма, пошукі самі сабой наўрад ці стануць прычынай ментальнага расстройства, але калі іх справакавалі праблемы, якія не вырашаюцца, пакуль чалавек займаецца справамі сваёй душы, то гэта можа скончыцца лякарняй. І ад гэтага ніхто не застрахаваны!

Рыта не выяўляла агрэсіі, не шкодзіла ні сабе, ні іншым, але яе бацькам чамусьці падалося, што яна можа здзейсніць самагубства, і яны вырашылі адвезці яе ў псіхіятрычную лякарню.

«Маё суб'ектыўнае меркаванне: беларускія псіхдыспансеры — гэта трэш, — кажа Рыта. — Я разумею, што многім людзям там і праўда дапамагаюць. Я разумею, што ёсць лекары, якія сапраўды спачуваюць хворым. Але заўсёды трэба ацэньваць пабочны эфект. Псіхдыспансер, на жаль, можна назваць пенітэнцыярнай установай, пакараннем чалавека за яго хваробу. Часта закрытасць абумоўлена рацыянальна, але шмат чаго засталося з савецкіх часоў «проста таму, што так трэба».

Рыта распавяла і пра забарону на карыстанне мабільнікамі, краты на вокнах, абавязковыя медагляды, што не маюць дачынення да ходу лекавання, пра стаўленне да пацыентаў як да недзеяздольных яшчэ да пастаноўкі дыягназу.

Па словах Рыты, «цяжкіх» і «буйных» хворых могуць звязваць. А «цяжкім» можа стаць любы чалавек, што трапіў у псіхіятрычную лякарню.

Некаторым людзям чамусьці пачынаюць калоць вельмі цяжкія лекі. У яе выпадку гэта былі галаперыдол і сібазон праз «падазрэнне на шызафрэнію».

«Ад гэтых лекаў я проста не магла рухацца праз аслабленне цягліцаў, набрала за тыдзень (!!!) 10 кілаграмаў і стала сніць нейкія жахі, чаго да прыёму прэпаратаў не было. Тут бацькі захваляваліся і перавялі мяне ў іншую лякарню, дзе мне нічога не калолі, толькі кармілі гарманальнымі антыдэпрэсантамі, — распавяла жанчына. — Тэрапію цяжкімі лекамі выкарыстоўвалі ў дачыненні да дзяўчыны — «складанага падлетка», якую маці прывезла ў лякарню «праверыцца», і жанчыны ва ўзросце, што скардзілася на болі ў галаве, ад чаго і лячылася, а потым парушыла распарадак (ужыла алкаголь), была пераведзеная ў палату для «цяжкіх» і праз некалькі дзён сапраўды выглядала на «цяжкую».

Рыта лічыць, што яе стан ад лекаў значна пагоршыўся. У Беларусі карыстаюцца прэпаратамі, што ў Еўропе і ЗША даўно выйшлі з ужытку, напрыклад, аменазінам для лекавання шызафрэніі. Ён мае шэраг пабочных эфектаў, у тым ліку досыць фізіялагічна непрыемных.

У лякарнях Рыта правяла тады паўтара месяцы. «Калі я выпісалася, то была шчаслівая, што мяне проста выпусцілі. На дэпрэсію на пэўны час я забылася. Бацькі лічаць, што мяне ўсё ж такі вылечылі, хай і занадта жорсткімі метадамі. Я мяркую, што пабачыўшы жахі псіхдыспансера, я рэзка панізіла планку жаданняў — і жыць стала лягчэй, жыць стала весялей. Ёсць жа статыстыка, што падчас войнаў ды катаклізмаў скарачаецца колькасць самагубстваў: у людзей з'яўляецца сэнс жыцця».

Праз паўгода пасля выпіскі Рыту знялі з псіхіятрычнага ўліку, сказаўшы нешта кшталту: «Вы трапілі ў лякарню памылкова, з вамі проста ніхто толкам не пагутарыў». Хто правы, хто вінаваты — ужо не разабрацца, шмат дэталяў Рыта ўжо не памятае. Але застаецца фактам, што многім людзям трэба «лекаванне пасля лекавання»: псіхдыспансер здымае сімптомы, але не вучыць адаптавацца да жыцця, чым і займаецца Клубны дом.

### Адаптацыя пасля псіхдыспансера

Рыта паўгода з жахам згадвала лякарню штодня, потым стала трохі лягчэй. Ва ўніверсітэце давялося ўзяць акадэмічны адпачынак і вярнуцца ў родны горад, які яна пакінула дзеля вучобы за 4 гады да дэпрэсіі. Сябры раз'ехаліся, Рыце давялося шукаць новыя знаёмствы, асэнсоўваць абставіны, вонкавыя і ўнутраныя, што справакавалі хваробу. Трэба было наноў ствараць сабе сацыяльнае асяроддзе.

Яна стала бясплатна вучыць танцам і лічыць, што гэта яе і сацыялізавала: «Добра, што горад абласны і быў інтарэс да маіх уменняў. Магчыма, у райцэнтры ці вёсцы я не паразумелася б з аднагодкамі пасля жыцця ў сталіцы». Старыя сябры Рыту не пакінулі, хаця яны рэдка бачыліся праз жыццё ў розных гарадах. Адносіны з бацькамі не клеіліся.

Праз год дзяўчына вярнулася ў Мінск, здала прапушчаную сесію. Студэнцкае жыццё ёй стала нецікавым, яна вырашыла памяняць нешта, перавялася на завочнае аддзяленне, працавала.

«Ад хлопца, з якім мы сталі разам жыць, бацькі былі ў шоку: ён зусім не адпавядаў мне па сацыяльным і адукацыйным узроўні. Праўда, мы хутка разышліся, я захапілася вучобай, нават вучылася за мяжой потым. Неяк усё больш-менш упарадкавалася, хаця часам даводзілася пахадзіць да псіхолага», — распавяла Рыта.

Больш у лякарню яна не трапляла, антыдэпрэсантаў не п'е. Сур'ёзны дэпрэсіўны эпізод перажыла пасля разводу, але абышлося без шпіталізацыі. Ёй пашанцавала пасля лякарні вярнуцца да жыцця, але так шанцуе, на жаль, не кожнаму. Клубны дом «Адкрытая душа» для многіх людзей застаецца адзінай магчымасцю.



> Кнігу «Нататкі таткі» я лічу адной з найлепшых, што напісаў. Яна, як і кнігі маіх калег, што пішуць для маленькіх, патрэбна будучыні Беларусі, бо галоўныя чытачы — нашы дзеці

# Нататкі Андрэя Хадановіча

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Напэўна, той, хто ўважліва сочыць за публікацыямі такога кшталту, адзначыць, што нешта падобнае ўжо было. І будзе мець рацыю. У жніўні 2012 года «Новы Час» друкаваў нарыс пра Андрэя Хадановіча, аднак адразу адзначу, што з таго артыкула ўзятая толькі дата народзінаў героя — 13 лютага 1973 года. Усё астатняе Андрэй расказвае пра сябе сам.**

### Нататкі пачатку

Я рос шчаслівым дзіцём. Нягледзячы на тое, што ў адносінах паміж бацькамі ўжо былі пэўныя складанасці (урэшце развяліся), вакол мяне заўжды панавалі цеплыня і любоў.

На шчасце, бацькі жывыя па наш дзень. Абодва былі і застаюцца вельмі неардынарнымі людзьмі. Маці скончыла Радыётэхнічны інстытут і працавала інжынерам, але праз усё жыццё былі відавочнымі яе артыстычныя схільнасці. Калі да мяне зараз прыходзяць госці, яны звяртаюць увагу на незвычайныя карціны на сценах і пытаюцца, як тыя зробленыя? Я тлумачу, што гэта не фарбы, а аплікацыі. З непатрэбнай тканіны выразаюцца розныя кавалачкі і клеяцца на дошку, што складае вельмі нетыповы цікавы малюнак. Гэта робіць мая маці.

Другое яе захапленне — чытанне. Мае першыя дзіцячыя ўспаміны якраз і звязаны з тым, што я вельмі люблю слухаць. Як кажуць, люблю літаратуру вушамі. Бывала, чытаў і бацька, але часцей — маці. Гэта маглі быць казкі альбо дзіцячыя пераклады Юліяна Тувіма. У мяне была ўчэпістая памяць. Я з першага прачытання мог усё запомніць, і потым у дзіцячым садку расказваць (літаральна старонкамі) вершаваныя тэксты. Асабліва смешныя. Мяне заўжды з захапленнем слухалі і выхавальніцы, і дзеці.

Я рана навучыўся чытаць сам, але не прызнаваўся ў гэтым бацькам, бо баяўся страціць бонус у выглядзе «чытання ўголас» і «слухання ўголас». Можа быць, менавіта гэта потым спрычынілася да далейшых інтарэсаў, да паэтычнага ўспрыняцця радка, вобразу. Сёння, калі я нешта пішу альбо перакладаю, яно гучыць недзе ўнутры. Я быццам бы правяраю тэкст, спраўджваю яго «на гучанне». Так для мяне больш пераканаўча, рэльефна, праўдападобна. Ёсць людзі, для якіх словы — набор літараў, што адразу складаюцца ў сэнс. У мяне ўсе гэтыя сэнсы найперш гучаць. За што я мушу маці яшчэ раз падзякаваць.

Такая ў мяне зараз і дачка Алена. Яна ўмее чытаць, і з прыемнасцю гэта робіць, але з нашмат большай радасцю слухае. Перад сном у нас цэлы рытуал. Мы абодва любім чытанне: я — чытаць, яна — слухаць.

Не заўсёды ўдаецца выкраіць на гэта час. Не заўсёды хапае і беларускіх перакладаў. Часам я разгортваю гарантавана добрую кніжку і пачынаю з рускай, польскай альбо ўкраінскай адразу перакладаць. На шчасце, ёсць і ўжо гатовыя пераклады, за што асобны дзякуй і перакладчыкам, і выдаўцам. Той жа «Карлсан» альбо «Пэпі — Доўгая Панчоха». З часам мы дараслі да Толкіена. Прачыталі «Хобіта» і перайшлі на беларускі пераклад трылогіі «Уладар пярсцёнкаў». Спачатку я пабойваўся, што змест будзе складаным для дзіцяці, але дарэмна. Дачцэ падабаецца, яна часам асацыюе тое, што слухае, з тым, што ведае, і задае надзвычай цікавыя пытанні.

Калі мы чыталі «Хобіта», там ёсць пра племя птушак, пра арлоў, якія дапамагаюць



гномам. У тэксце такі велічны персанаж — «Гаспадар арлоў». Дачка пытаецца: «Татка, а які гаспадар арлоў? Уладзімір Арлоў?». Справа была ў жніўні і я зразумеў, як праз некалькі дзён буду віншаваць з днём народзінаў вядомага пісьменніка, якому гэта вельмі спадабалася…

Дарэчы, кнігу «Нататкі таткі» я лічу адной з найлепшых, што напісаў. Яна, як і кнігі маіх калег, што пішуць для маленькіх, патрэбна будучыні Беларусі, бо галоўныя чытачы — нашы дзеці.

Пасля разводу бацькоў я жыў з маці, але часта хадзіў да бацькі, карыстаўся яго багатай бібліятэкай. Менавіта там я ўбачыў першыя кнігі дзевяцітомніка Караткевіча. На той момант выйшлі толькі чатыры тамы. Я разгарнуў, пачаў чытаць «Каласы пад сярпом тваім» — і не заўважыў, як праляцелі суткі. Кніжка скончылася, а раман не, бо заканчэнне друкавалася ў пятым томе. Помню, як яго чакаў — і дачакаўся, набыўшы ў кнігарні. Гэта зараз я разумею, што праблема магла вырашацца прасцей: пашукаць іншае выданне.

Бібліятэка цяпер ёсць і ў мяне. Не скажу, што гэта нейкая суперкалекцыя, але адлік ідзе ўжо на тысячы томікаў, і ніякая электроніка, баюся, не можа персанальна для мяне замяніць папяровыя кнігі. У мяне ёсць электронная чыталка, што значна эканоміць месца падчас падарожжаў, аднак яе так не адчуеш на дотык, гартаючы, тройчы падумаеш, перш чым залезці з ёй у ванну, і не зробіш алоўкам нейкія зацемкі на палях… Папяровыя кнігі — сабе, электронныя — сабе.

Жонка смяецца: вечнай праблемай нашай сям'і стала тое, што як толькі з'яўляецца нейкая дробная капеечка, я адразу апынаюся ў кнігарні. Калі заходзіш у дом, кнігі атачаюць з усіх бакоў, навісаюць над галавой, як бы выпіхваюць чалавека са сваёй тэрыторыі.

### Дэбютныя нататкі

Мы пераязджалі некалькі разоў. Пасля майго нараджэння першы год жылі на Рэспубліканскай, якая цяпер стала Гарадскім Валам. Пасля размену пераехалі на Альшэўскага. Там я пайшоў у дзіцячы садок, а потым у 113-ю сярэднюю школу, дзе адвучыўся першыя шэсць гадоў. Яны «прышчапілі» дзве рэчы.

Абмен рэчываў у мяне такі, што трэба сачыць за сабой, каб не ператварыцца ў стокілаграмовую хмару. А мой бацька быў журналістам, працаваў у многіх газетах. Вельмі любіў спорт. Займаўся боксам, бегаў на лыжах, а калі служыў памежнікам, быў у камандзе па вайсковым шматбор'і. Ён перыядычна заахвочваў разам з раніцы бегаць па дваровым стадыёне, дзе яго ведалі ўсе мясцовыя юнакі і падлеткі, бо мы з імі пастаянна гулялі ў футбол.

Бацька адвёў мяне не ў самую блізкую да дома школу, але там быў «спартовы клас». Пэўны час у нас нават працаваў класным кіраўніком школьны фізрук. Ён стала трэніраваў у лёгкаатлетычным комплексе «Дынама», і мы з першага класу часта туды ездзілі. Словам, маё юнацтва праходзіла пад знакам спорту — з аднаго боку.

З другога — бонусам да спорту зрабілася нячастая ў школах французская мова, якую сталі вывучаць з чацвёртага класа. Гэта потым мне прыдалося.

Пасля быў яшчэ адзін пераезд — на вуліцу Славінскага. Калі мы туды пераехалі, насупраць нашага дома спыняліся 35 і 38 тралейбусы. Апошні нават натхніў. Неяк зранку, пасля святкавання Каляды, я, яшчэ сонны і стомлены, выходзіў на працу, а з дыспетчарскай станцыі выязджаў тралейбус нумар 38. Новага ўзору, з бартавымі агеньчыкамі, быццам бы самалёт, які вось-вось узляціць. Тады і прыдумалася «Балада пра 38 тралейбус», якую я часта чытаю публічна.

А калі з'явіліся аўтобусы новага тыпу, з аўтаматычнымі абвяшчальнікамі прыпынкаў, фраза пра «Наступны прыпынак — раствора-бетонны» (на сёння ўжо — «Вялікая Слепя»), пачутая мной зноў-такі на Каляды, зачапілася за свядомасць і натхніла на верш «Раство на раствора-бетонным».

Калі пасля школы я трапіў на філфак БДУ, там яшчэ не было рамана-германістыкі, толькі беларускае і рускае аддзяленні. А я заўсёды цікавіўся замежнай літаратурай, асабліва паэзіяй. Перадусім французскай канца XIX — пачатку XX стагоддзяў: Шарлем Бадлерам, Арцюрам Рэмбо, Стэфанам Малармэ, Гіёмам Апалінэрам… Цяпер, размаўляючы з бацькам, маю чым пахваліцца — паказаць свае пераклады Бадлера і Апалінэра, што зусім нядаўна выйшлі асобнымі кніжкамі ў серыі «Паэты планеты».

На рускім аддзяленні філфаку БДУ вучыліся 121 дзяўчына і 11 хлапцоў, на кожнага прыпадала роўна па 11, але я так і не зрабіўся лавеласам, як пра мяне часам пляткараць. Прыблізна такая ж прапорцыя была і на беларускім аддзяленні, дзе вучыўся, скажам, будучы выдавец часопіса «Архэ» Валер Булгакаў. А маім найлепшым сябрам у аспірантуры, куды я трапіў пасля ўніверу, стаў незабыўны Юрась Бушлякоў. Гэтаму чалавеку я абавязаны тым, што мой пераход на беларускую мову адбыўся лёгка і камфортна.

Што да сур'ёзных адносін, то выбар я зрабіў даволі хутка. Ужо з другога курса часта апынаўся за адной партай з будучай

жонкай Марынай, потым мы разам вучыліся ў аспірантуры, а затым і стасункі свае юрыдычна аформілі.

Аспірантуру я заканчваў па спецыяльнасці «французская літаратура», дыплом абараняў па паэзіі Бадлера, а калі ў другой палове дзевяностых «пратаптаў сцяжынку» да культавага літаратурнага часопіса «Крыніца» (дзякуй людзям, якія яго тады рабілі!), першую літаратурную ўзнагароду атрымаў менавіта за пераклады з французскай. Гэта былі вершы Стэфана Малармэ, які лічыцца адным з самых складаных, герметычных паэтаў Францыі. Адзін французскі дасціпнік неяк пажартаваў: «Вы перакладаеце Малармэ з французскай на англійскую? Перакладзіце яго спачатку з французскай на французскую...»

Пры перакладзе вельмі хацелася захаваць «зубадрабільна-недляўсіхны» аўтарскі стыль, таму я літаральна абклаўся слоўнікамі з нетыповай лексікай — Янкі Станкевіча, Вацлава Ластоўскага і перадусім Байкова і Некрашэвіча (цяпер ён перавыдадзены, а тады я карыстаўся выданнем 1928 года, чытаў у навуковай бібліятэцы, адксерыў для сябе. Да нядаўняга часу цэлы стос тых ксеракопій стаяў на кніжнай паліцы). Памятаю, вельмі перажываў, што атрымаецца нешта больш зразумелае, чым у Малармэ, але высвятлілася — дарэмна. Калі прынёс тэкст майму ўлюбёнаму паэту Алесю Разанаву, той прачытаў і сказаў: «Ні халеры не разумею...» Гэта мусіла гучаць як крытыка, але я пачуў пахвалу: калі ўжо Разанаў, які сам лічыцца адным з найскладанейшых аўтараў, разгубіўся, то, відаць, эфект Малармэ па-беларуску дасягнуты.

За той пераклад я і атрымаў узнагароду часопіса «Крыніца». Чыста сімвалічную, але вельмі прыемную. Потым было шмат розных прэмій, але гэтая — самая запамінальная.

### Нататкі паэта

У аспірантуры я найперш хаваўся ад войска, бо вайсковую кафедру ў нас на другім курсе замянілі медыцынай. Навуковую ступень я не атрымаў, бо ніколі не ставіў сабе нейкіх амбітных акадэмічна-педагагічных мэтаў. Відаць, ува мне ўсё ж такі больш аўтара і перакладчыка, і толькі потым пачынаецца выкладчык літаратуры.

Першыя асэнсаваныя вершы я пачаў ствараць на некалькі гадоў раней за пераклады, калі быў студэнтам філфаку. Мабыць, у значнай ступені ўплываў вялікі аб'ём чытання. Некаторыя тэксты з'яўляліся як «пабочны эфект» ад прачытаных кніг. Вялікую ролю адыгралі таленавітыя выкладчыкі. Напрыклад, легендарны прафесар, загадчык кафедры тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства Адам Яўгенавіч Супрун, знаны славіст, якога ведалі далёка за межамі.

Мне пашанцавала слухаць не толькі яго, але і знакамітага прафесара Барыса Нормана або бліскучага выкладчыка Якава Трамбавольскага, які мог загіпнатызаваць аўдыторыю і скончыць сімпатычным вершам уласнага аўтарства. Дарэчы, ён ніколі не адмаўляў ва ўвазе: даваў чытаць цікавыя кнігі і пару разоў глядзеў мае першыя, шмат у чым бездапаможныя тэксты. Менавіта гэтая кафедра штогод ладзіла культавую Славянскую вечарыну. Найчасцей яе праводзілі ў гонар Дня славянскага пісьменства. Вечарыны былі цікавыя, насычаныя розным лінгвістычным матэрыялам, і перадусім — вельмі смешныя. Бывалі таленавітыя госці. На адной з іх я ўпершыню ўбачыў Дзіму Строцава, з якім мы потым, праз шмат гадоў, пасябравалі. Яшчэ больш на мае першыя літаратурныя эксперыменты паўплываў паэт і перакладчык Канстанцін Міхееў, з якім мы чатыры гады вучыліся на адным курсе.

Косця пазнаёміў мяне з Кімам Хадзеевым, яшчэ ў мой «дабеларускі» перыяд. Я быў проста зачараваны яго неардынарнасцю, унутранай свабодай і незалежнасцю меркаванняў пра ўсё на свеце, глыбінёй ягоных ведаў. Гэта быў абсалютна несавецкі чалавек, які жыў у Савецкім Саюзе. Жыў паводле сваіх поглядаў і звычак. На інтуітыўным і вельмі індывідуальным узроўні ён мог параіць чалавеку менавіта тое, што яму патрэбна было пачуць, прачытаць, даведацца ў канкрэтны момант. Пасля пяці хвілінаў знаёмства ён выцягнуў з нетраў сваёй канапы (забітай, дарэчы, не падушкамі, а кніжкамі, што не змяшчаліся на паліцах) «Пену дзён» Барыса Віяна ў геніяльным перакладзе Ліліяны Лунгіной. У нейкі момант Кім прапанаваў, каб я паказаў яму сваю пісаніну. Ён не быў чэмпіёнам свету па тактоўнасці і не лез па эмацыйныя слова ў кішэнь, таму яго ацэнкі бывалі даволі рэзкія. Але за некаторыя тэксты ён хапаўся і прапаноўваў над імі «працаваць». То бок прызначалася наступная сустрэча, і мы некалькі гадзінаў праводзілі над маім чарнавіком.



**Я заўсёды ўсведамляю, што ПЭН — гэта найперш аб'яднанне творцаў, якое мусіць абараняць свабоду літаратара ва ўсіх яе праявах. Невыпадкова, што ў часы, калі пад пагрозай не толькі свабода слова, але і свабода саміх пісьменнікаў, аб'яднанне ажыццяўляе розныя праявы салідарнасці**

Сёння я разумею, наколькі фантастычна ён быў запатрабаваны. Хто толькі, выбачайце, не еў Хадзееву мозг! То ён ратаваў маладую беларускую эканоміку, пішучы праграму па сельскай гаспадарцы. То пісаў усякім навукоўцам і псеўданавукоўцам кандыдацкія і нават доктарскія дысертацыі, прычым па самых розных дысцыплінах. То кагосьці кансультаваў. Праз яго кватэру на вуліцы Кісялёва хто толькі ні праходзіў, у тым ліку розныя нефармальныя маладыя творцы, што часам жылі ў яго на кухні і пісалі там свае раманы ці вершы... Як ён яшчэ на мяне знаходзіў час, дзіва дзіўнае!

У ацэнках ён мог быць рэзкім, а вось рэдагаваў надзвычай далікатна. Здавалася б, ён мог лёгка навязаць аўтару сваю волю, сказаўшы, як канкрэтна трэба зрабіць. Але замест гэтага ён гадзінамі прапаноўваў мне свае варыянты, пакуль я, адмовіўшыся ад дваццаці пяці, прыму ягоны дваццаць шосты, а найлепей — прыдумаю свой дваццаць сёмы. Карыстаючыся мовай футбалістаў, ён часцей даваў пасы, чым забіваў галы сам. Гэта мяне ў ім уражвала і, магчыма, прыдалося пазней мне самому — калі ўжо я мусіў рэдагаваць чужыя творы.

Па-першае, Хадзееў навучыў выбіраць, знаходзіць у «славеснай рудзе» найлепшае, крытычна ставіцца да ўсяго, што чытаеш. У тым ліку і да асабістага. Навучыў глядзець на свае творы «чужым вокам». Па-другое, — не зайздросціць творчым удачам, знаходкам іншых літаратараў, а шчыра здзіўляцца, радавацца цуду іх нараджэння. Пры гэтым захапленне не перашкаджае нешта карэктаваць, прапаноўваць, каб зрабіць яшчэ лепшым.

Апошнія гадоў дзесяць мне часта даводзіцца бываць рэдактарам, і досвед пасядзелак над тэкстамі з Кімам вельмі спатрэбіўся. Мне пашанцавала быць рэдактарам вельмі сімпатычных кніг, аўтары якіх ужо зрабіліся зоркамі сучаснай беларускай літаратуры. Згадаю паэзію і пераклады Вальжыны Морт, Веры Бурлак, Марыі Мартысевіч, Віталя Рыжкова, Уладзя Лянкевіча, паэзію Антона Рудака і Насты Кудасавай, вершы і прозу Андрэя Адамовіча, раман Паўла Касцюкевіча «План Бабарозы».

### «Пэнаўскія» нататкі

У ПЭН-цэнтр я ўступіў на год раней за незалежны Саюз пісьменнікаў: адпаведна, 2002-м і ў 2003-м гадах. На той момант праца з моладдзю была ледзь не самай занядбанай «дзялянкай» беларускай літаратуры, і неяк склалася, што мяне пацягнула гэтым займацца. Разам з пэнаўскімі калегамі мы штогод арганізоўвалі конкурс маладых літаратараў. Ягоу назву падказваў той ці іншы прыгожы юбілей. Першы конкурс меў імя Наталлі Арсенневай, а праз год было 700-годдзе Франчэска Пятраркі, і мы зрабілі вялікага італьянца патронам беларускага конкурсу. Пасля быў Уладзімір Караткевіч, потым адзначалася 100-годдзе «Нашай Нівы», а затым — конкурсы імя Карласа Шэрмана, Ларысы Геніюш, Чэслава Мілаша і Максіма Танка. Апошні меў вынікам пленэр на Браслаўскіх азёрах, але мы не столькі цешыліся з маляўнічай прыгажосці, колькі з раніцы да ночы апантана працавалі над тэкстамі. Ранейшыя конкурсы таксама заканчваліся майстар-класамі, прычым не толькі ў Мінску, але і ў Вільні або ў Празе.

Быў яшчэ адзін бонус — пасля конкурсу мы выдавалі зборнік з творамі яго пераможцаў. Злыя языкі называюць такія зборнікі «брацкімі магіламі», але ў нас, на шчасце, выйшла інакш. Гэтыя кніжкі звярнулі на сябе ўвагу (магчыма, таму, што мы ладзілі туры па ўніверсітэцкіх гарадах Беларусі, каб нашы аўтары маглі выступіць перад новай аўдыторыяй).

Згадаю толькі некалькі ўдзельнікаў першага зборніка. Тая ж Вальжына Морт, што стала адной з самых вядомых беларускіх паэтак у свеце. Глеб Лабадзенка, чые кніжныя, культурніцкія і журналісцкія праекты вядомыя не менш за яго творчасць. Анатоль Івашчанка, які сёння разам з Барысам Пятровічам робіць часопіс «Дзеяслоў». Сяргей Прылуцкі, які цяпер жыве ў Кіеве, але ёсць адным з найлепшых беларускіх аўтараў. Цяпер дзейнасць ПЭНу паспяхова працягвае Саюз беларускіх пісьменнікаў, які штогод ладзіць для маладых аўтараў літаратурны конкурс «Экслібрыс».

Другім кірункам дзейнасці ПЭН-цэнтру стаў удзел у арганізацыі незалежных літаратурных прэмій: імя Францішка Багушэвіча — за гістарычную прозу, Алеся Адамовіча — за публіцыстыку, Карласа Шэрмана — за мастацкі пераклад, Цёткі — за дзіцячую літаратуру. Вядома ж, прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча — для маладых творцаў, якую, як і некаторыя іншыя, падтрымлівае наш заслужаны мецэнат Павел Бераговіч (сузаснавальнікі трох апошніх прэмій — Беларускі ПЭН-цэнтр і СБП).

Асобна хачу сказаць пра прэмію імя Францішка Аляхновіча, якую неафіцыйна яшчэ называюць «турэмнай», бо яна ўручаецца за творы, напісаныя ў зняволенні. Яе ініцыятар — Аляксандр Лукашук, кіраўнік беларускай службы «Радыё Свабода», якая ўручае прэмію разам з ПЭНам. Дзякуй Богу, апошнія пару гадоў не даюць падстаў для яе ўручэння.

І, канешне ж, прэмія імя Ежы Гедройца, якую мы зладзілі разам з Амбасадай Польшчы, Польскім інстытутам у Мінску і Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Дарэчы, так склалася, што чым больш на ПЭН і СБП «ціснула» дзяржаўная ідэалогія, чым больш выпіхвала нас на маргінэз, тым у большай ступені мы рабіліся партнёрамі і падтрымлівалі адно аднаго. У нас і сёння з СБП і яго старшынёй Барысам Пятровічам вельмі прыязныя адносіны. Варта згадаць сумесную арганізацыю міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» імя Міхася Стральцова. І ідэя правядзення, і арганізацыя была супольнай ад самага пачатку. Ганаруся, што фестываль не толькі ўшаноўвае памяць нашага выбітнага творцы, але і зрабіўся штогадовай, значнай для Мінску і Беларусі культурнай падзеяй. Ён дазваляе сабраць на адной пляцоўцы найлепшых паэтаў як са сталіцы, так і з розных іншых беларускіх гарадоў, а таксама запрасіць у Мінск класных аўтараў з іншых краінаў.

Я заўсёды ўсведамляю, што ПЭН — гэта найперш аб'яднанне творцаў, якое мусіць абараняць свабоду літаратара ва ўсіх яе праявах. Невыпадкова, што ў няпростыя часы, калі пад пагрозай не толькі свабода слова, але і свабода саміх пісьменнікаў, якія ў Беларусі перыядычна трапляюць за краты, наша аб'яднанне адным з першых ажыццяўляе розныя праявы салідарнасці.

Так было з арыштаваным Уладзімірам Някляевым, якога ў 2011 годзе мы вылучылі на атрыманне Нобелеўскай прэміі. Магчыма, гэта быў больш палітычны крок, чым літаратурны, бо Нобелеўскую ўзнагароду без шматгадовай падрыхтоўкі ніхто не атрымлівае. Але наш аўтар і апальны палітык атрымаў тады шмат іншых узнагарод, яго кніжкі былі выдадзеныя ў розных краінах, столькі вядомых людзей выступілі ў яго падтрымку! Думаю, такая хваля салідарнасці была не апошнім аргументам для вызвалення паэта.

Дарэчы, для мяне істотна, што менавіта спадар Уладзімір, папярэдні старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру, прапанаваў у 2008 годзе нашай Радзе, а потым і Сходу маю кандыдатуру.

Пасада старшыні носіць чыста сімвалічны характар, забіраючы шмат часу, не прыносіць нічога, акрамя клопату і хвалявання. Але таксама і радасць, калі нешта ў нашай культурнай сітуацыі ўдаецца змяніць да лепшага. Напрыклад, заснаваўшы новую ўзнагароду, якой нядаўна зрабілася Кніга года — прэмія, дзе за пісьменнікаў галасуюць самі пісьменнікі.

Усведамляю, як нам яшчэ далёка да салідарнасці, узаемапавагі і талерантнасці хаця б на тэрыторыі літаратуры, але любы крок у гэтым кірунку быў бы дарэчны.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ



### ЗША. Цукерберга ў прэзідэнты?

На старонках амерыканскай прэсы ўсё больш спекуляцый наконт магчымай балаціроўкі заснавальніка Facebook Марка Цукерберга ў прэзідэнты ЗША на выбарах 2020 года. Падставай для такіх чутак стала яго незвычайнае турнэ па краіне, у межах якога ён знаёміць аўдыторыю са сваімі палітычнымі поглядамі. Аглядальнікі таксама звяртаюць увагу, што ў камандзе праграміста з'явіліся людзі, якія раней мелі дачыненне да выбарчых кампаній такіх вядомых палітыкаў, як Барак Абама або Хілары Клінтан. Калі меркаваць па змесце выступаў, Цукерберга можна аднесці да прыхільнікаў Партыі дэмакратаў — ён кажа пра талерантнасць і гарантаваны прыбытак для кожнага амерыканца. Аднак дасюль ён ніводнага разу не выступіў у падтрымку дэмакратаў. Праўда, маючы капітал у 71 мільярд долараў, Цукерберг, напэўна, можа абысціся і без партыйных структур. Так ці інакш, на цяперашні момант кандыдатуру Цукерберга, паводле сацыялогіі, гатовыя падтрымаць каля 40 працэнтаў выбаршчыкаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. Ці трэба кампенсацыя ад Германіі?

Чэшскае грамадства, натуральна, не магло праігнараваць навіны з Варшавы. Там урадавая кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» рыхтуецца даслаць Берліну рахунак за акупацыю Польшчы падчас Другой сусветнай вайны. Паколькі чэхі таксама былі ахвярамі нямецкага нацызму, шмат хто задаецца пытаннем: «Чаму маўчыць Прага?» Прэзідэнт Чэхіі Мілаш Земан пакуль абмежаваўся тым, што паабяцаў вывучыць аргументы польскага боку. Відавочна, што Земан папросту не хоча сварыцца з ФРГ — вядучым эканамічным партнёрам Чэхіі. Між тым у самім грамадстве паўстала цікавая думка — афіцыйна адмовіцца ад рэпарацый на адрас Германіі пад соусам таго, што немцы, быццам, даўно іх выплацілі... у выглядзе канфіскаванай маёмасці судэцкіх немцаў. Нагадаем, што пасля вайны з Чэхаславакіі былі прымусова дэпартаваныя каля трох мільёнаў этнічных немцаў. Некаторыя колы ў Германіі дасюль патрабуюць за гэта кампенсацыі. Дзякуючы тэме рэпарацый, мяркуюць некаторыя, можна назаўжды перагарнуць трагічную старонку гісторыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Пачатак двухпартыйнай сістэмы?

Лідар ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі прапанаваў радыкальную рэформу мясцовага партыйнага пейзажу. Ён заклікаў усе думскія партыі, акрамя прапуцінскай «Адзінай Расіі», аб'яднацца пад адным дахам арганізацыі «Сацыяльна-дэмакратычная партыя Расіі» (СДПР). Аўтар ідэі бачыць СДПР як партыю левацэнтрысцкага выбару, у той час як адзінаросы могуць стаць паслядоўнымі кансерватарамі. Нават далёкі ад палітыкі чалавек пабачыць тут аналогіі з Амерыкай, дзе асноўныя ролі гуляюць левацэнтрысты і кансерватары. У Жырыноўскага не хаваюць, што мараць імпартаваць заакіянскі досвед двухпартыйнай дэмакратыі, які, быццам бы, дазволіць стабілізаваць сістэму. Натуральна, узнікае пытанне: што рабіць антыпуцінскай ліберальнай апазіцыі. На думку жырыноўцаў, яны могуць стаць фракцыяй унутры СДПР накшталт амерыканскіх левых, якія вельмі часта з'яўляюцца сябрамі Дэмпартыі. Што тычыцца палітолагаў, дык яны сумняваюцца ў тым, што Крамлю будзе патрэбная двухпартыйная мадэль. Так ці інакш, такая мадэль не вырашае галоўнага пытання — наяўнасці рэальнай канкурэнцыі паміж партыямі. Сёння думскія апазіцыйныя партыі толькі фармальна можна называць партыямі апазіцыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Вярнуць вайсковую падрыхтоўку

Добра маршыраваць, трапна страляць, далёка кідаць гранаты, ведаць усіх нацыянальных герояў і салютаваць сцягу краіны. Такія навыкі і веды атрымаюць венгерскія школьнікі ў выніку вывучэння новага прадмета, які з'явіцца ў школьнай праграме з гэтай восені. Па сваёй сутнасці ён нагадвае курс пачатковай вайсковай падрыхтоўкі, які вывучалі савецкія школьнікі. Неабходнасць такога прадмета ў школе ўрад тлумачыць кепскім маральным станам моладзі. Дзякуючы новаму прадмету маладыя людзі «палюбяць радзіму і будуць гатовыя змагацца за яе». Такая трактоўка выклікала незадаволенасць сярод іншых настаўнікаў гуманітарных прадметаў, якія, быццам бы, таксама вучаць дзяцей любіць радзіму. Прафсаюзы настаўнікаў нават кажуць пра тое, што ўрад палітызуе школу. На думку экспертаў, з'яўленне новага прадмета трэба разглядаць у кантэксце сістэматычных правалаў вярбовачнай кампаніі ў венгерскае войска, дзе служаць на добраахвотнай аснове.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Інтурыст, ідзі дадому!

*Алег НОВІКАЎ*

**Адна з самых прыкметных падзей лета 2017-га — масавыя пратэсты на еўрапейскіх курортах супраць наплыву турыстаў. На думку прэсы, антытурыстычны рух, што нараджаецца на нашых вачах, цалкам зменіць наша ўяўленне пра адпачынак за мяжой.**




Фота www.reuters.com

Дастаткова зайсці на форумы інтэрнэт-выданняў Адэсы, Сочы або іншых курортных гарадоў, каб зразумець, што стаўленне да адпачывальнікаў у мясцовых жыхароў неадназначнае. Людзей раздражняюць замежныя машыны на вуліцах і «забітыя тушкамі турыстаў» пляжы. Аднак, напэўна, упершыню ў гісторыі побытавыя антытурыстычныя забабоны трансфармаваліся ў палітычны пратэст, прычым, адразу ў шэрагу краінаў.

Венецыя, Ібіца, Дуброўнік, Барселона, Сан-Себасцьян... Гэта далёка не поўны спіс гарадоў, дзе апошнім часам можна пабачыць графіці «Tourist, go home!» («Турыст, ідзі дадому!») або пачуць аналагічныя заклікі на мітынгах. Часам надпісамі і мірнымі маніфестацыямі справа не абмяжоўваецца. У Каталоніі мясцовыя левыя нацыяналісты ўрываліся ў рэстараны, білі шкло турыстычных аўтобусаў, закідвалі іх дымавымі шашкамі. Тая ж групоўка пачала кампанію пашкоджання маёмасці турыстаў — рэжуць колы ровараў, якія арандуюць адпачывальнікі, заліваюць клеем замкі ў камерах захоўвання.

На першы погляд, патрабаваць выгнання турыстаў здольны толькі вар'ят. Ролю турыстычнай індустрыі для напаўнення бюджэту ў паўднёвых краінах Еўропы цяжка пераацаніць. У той жа Іспаніі інтурысты даюць цэлых 11 працэнтаў ВУП краіны.

Аднак, як высвятляецца, у мясцовых ёсць сур'ёзныя падставы, каб глядзець на турызм інакш. Пачнём з негатыўнага ўплыву турызму на лакальны рынак нерухомасці. Вялікі попыт на апартаменты падчас сезону выклікае рост арэндных коштаў, што робіць для мясцовых жыхароў недаступным жытло ў цэнтры і прымушае перасяляцца на перыферыю.

Не падабаюцца людзям і тэхнічныя нязручнасці, якія выклікаюць госці. Напрыклад, жыхароў Рыма раздражняе выкліканая турыстамі цісканіна ў грамадскім транспарце. У Барселоне скардзяцца на тое, што пляжах яблыку няма дзе ўпасці. Відавочна, што наплыў курортнікаў стварае пагрозу мясцовай экалогіі. Аматары гісторыі, у сваю чаргу, перажываюць за гістарычныя помнікі, на якія часта палююць вандалы — аматары прыцягнуць з адпачынку ўнікальны сувенір. Жыхароў прыбярэжных гарадоў больш за ўсё абураюць дзясяткі і сотні круізных лайнераў. Нарэшце, нацыяналісты ў той жа Каталоніі незадаволеныя, што рэгіён — калісьці нерв іспанскай індустрыі, профільна ўсё больш пераарыентуецца на абслугоўванне замежнікаў.

З улікам такой колькасці праблемаў, якія выклікае турызм, не здзіўляюць дадзеныя сацыёлагаў. Паводле апытання, праведзенага барселонскім муніцыпалітэтам у чэрвені, турызм упершыню выйшаў на першае месца сярод праблем, якія хвалююць барселонцаў, апярэдзіўшы нават беспрацоўе, якое традыцыйна з'яўляецца бізуном Іспаніі.

Пры гэтым праціўнікі турызму настроеныя вельмі радыкальна. Сярод удзельнікаў руху папулярны пастулат: мяжа магчымасцяў па абслугоўванні турыстаў дасягнутая, і адзіная альтэрнатыва — скарачэнне іх патоку.

**Венецыя, Ібіца, Дуброўнік, Барселона, Сан-Себасцьян... Гэта далёка не поўны спіс гарадоў, дзе можна пабачыць графіці «Tourist, go home!» («Турыст, ідзі дадому!») або пачуць аналагічныя заклікі на мітынгах. Часам надпісамі і мірнымі маніфестацыямі справа не абмяжоўваецца**

Такі бескампрамісны падыход не падабаецца цэнтральным урадам, якія разглядаюць турызм як важны чыннік развіцця агульнанацыянальнай гаспадаркі. Напрыклад, іспанскі прэм'ер-міністр Марыяна Рахой запісаў усіх удзельнікаў апошніх антытурыстычных выступаў у «экстрэмісты», узгадаўшы пра колькасць суайчыннікаў, якія сёння занятыя працай у турсектары.

З іншага боку, цалкам ігнараваць з'яву нельга. Назіраецца працэс, калі мясцовыя ўлады вымушаныя ўлічваць антытурыстычныя настроі выбаршчыкаў. Нездарма апошнім часам мы сталі сведкамі актыўнай заканадаўчай практыкі па кантролі турыстычных патокаў на месцах. Напрыклад, у Венецыі на 20 працэнтаў скарацілі колькасць заходаў караблёў у горад. Там жа ўводзяцца спецыяльныя падаткі на наведванне гораду і квота наведвальнікаў. Улады Барселоны пачалі сур'ёзны ціск на інтэрнэт-сайты, праз якія турысты здымаюць жытло. 10 жніўня на Балеарскіх выспах увялі новыя правілы рэгулявання квотаў у гатэлях. Парушэнне гэтага закона цягне накладанне штрафу на ўласніка аж да 400 тысяч еўра.

Схільная да рэформаў і Сусветная арганізацыя турызму, якая па слядах пратэстаў заклікала ўлады буйных гарадоў дыверсіфікаваць патокі гасцей, а таксама дапамагаць суседнім рэгіёнам, каб размеркаванне турыстаў было больш роўным. Акрамя таго, на думку прадстаўнікоў арганізацыі, неабходна адыходзіць ад паняцця «высокі сезон», сканцэнтраваўшыся на ўзняцці папулярнасці іншых перыядаў.

Рэалізацыя ініцыятывы, на думку назіральнікаў, можа рэфармаваць існуючы турбізнес. Прынамсі, паўстануць новыя турыстычныя накірункі, будуць перагледжаныя сезонныя кошты тураў і авіяперавозак на курорты. Праўда, калі пачнуцца рэформы, і ці пачнуцца ўвогуле, — нікому не зразумела.

У сувязі з гэтым палітолагі прагназуюць пашырэнне антытурыстычнага руху і яго радыкалізацыю. Найбольш небяспечная сітуацыя, як піша прэса, склалася ў Краіне Баскаў, дзе бум турызму пачаўся пасля 2011 года, калі тэрарысты з мясцовай групоўкі ЕТА адмовіліся ад баявых метадаў барацьбы. Журналісты баяцца, што радыкальныя фракцыі праціўнікаў турызму могуць аднавіць гвалт, каб адпрэчыць ненавісных ім турыстаў.



Фота www.gazeta.ru

# Кастынг для кааліцыянтаў

Алег НОВІКАЎ

**На думку нямецкай прэсы, Ангела Меркель, не маючы сумневаў наконт сваёй перамогі на парламенцкіх выбарах, пачала кастынг партнёра па будучай кааліцыі.**

Прыкладна месяц застаўся да выбараў у Бундэстаг — яны адбудуцца 24 верасня. І ўжо зараз, як лічаць некаторыя аглядальнікі, Меркель можа прымаць віншаванні. Дыстанцыя ад сацыял-дэмакратаў — асноўных канкурэнтаў кансерватараў, — складае каля 12–15 працэнтаў, і пакуль цяжка сказаць, што можа кардынальна змяніць існуючы трэнд.

Праўда, 37–40 працэнтаў галасоў (менавіта столькі немцаў збіраюцца сёння галасаваць за партыю Меркель) не забяспечаць кансерватарам дэпутацкай большасці. Як следства, хочаш — не хочаш, а трэба шукаць сябра па кааліцыі.

Сама Меркель пакуль упарта адмаўляецца называць імя будучага партнёра. Адзінае, што дакладна паабяцала канцлер, — не запрашаць у кааліцыю прадстаўнікоў з радыкальных партый: «Левыя» і «Альтэрнатыва для Германіі». Што тычыцца іншых, то яна адзначыла, што «гатовая на ўсіх глядзець».

Акрамя «Левых» і «Альтэрнатывы для Германіі», шанцы пераскочыць пяціпрацэнтны бар'ер, неабходны для праходу ў Бундэстаг, на сярэдзіну жніўня захоўваюць яшчэ тры структуры. Гэта сацыял-дэмакраты (25 працэнтаў папулярнасці), ліберальная «Свабодная дэмакратычная партыя» (FDP) з 9 працэнтамі падтрымкі і, нарэшце, «Саюз 90/Зялёныя» (ім сімпатызуюць 6,5 працэнта нямецкага электарату).

Якая з пералічаных фармацый найбольш пасуе кансерватарам? Калі сыходзіць з гістарычнай традыцыі, дык гэта, відавочна, свабодныя дэмакраты. З 1949 года, калі паўстала ФРГ, лібералы аж 12 разоў фармавалі з кансерватарамі кабінеты на правах малодшага партнёра. Аднак з цяперашнімі лібераламі ў Меркель могуць быць нестыкоўкі, паколькі ў партыйным кіраўніцтве новыя людзі, якія толькі-толькі фармуюць новы профіль партыі пасля нядаўняга крызісу.

Што за тараканы ў галаве лібералаў, цалкам не вядома. Лепшы прыклад — нядаўняя нечаканая заява старшыні FDP Крысціяна Ліндцера, які прапанаваў даць новы старт адносінам з Расіяй — нягледзячы на «Крымскае пытанне», рашэнне якога трэба «адкласці на няпэўна доўгі час». Цытата Ліндцера выклікала хвалю крытыкі ў нямецкай прэсе, яго прапанову адразу ж адпрэчыў урад Меркель. Палітыка абвінавацілі ў парушэнні заходняй салідарнасці, прасоўванні інтарэсаў эканамічнага лобі і гэтак далей. З улікам таго, што партыя — малодшы партнёр па кааліцыі, паводле традыцый, адказвае за знешнепалітычнае ведамства, саюз з лібераламі для Меркель яўна ўтрымлівае нейкія рызыкі.

> **37–40%**
> **працэнтаў галасоў (менавіта столькі немцаў збіраюцца сёння галасаваць за партыю Меркель) не забяспечаць кансерватарам дэпутацкай большасці**

Што тычыцца эсдэкаў, дык, падаецца, яны самі не вельмі жадаюць блакавацца з кансерватарамі. Днямі SPD катэгарычна адмовілася ўдзельнічаць у складзе ўраду, які пагодзіцца на павелічэнне выдаткаў на абарону да 2% ВУП, паколькі «гэты крок азначае падпарадкаванне Трампу» (раней Дональд Трамп заклікаў сяброў па NATO выканаць умовы сяброўства ў Альянсе — узняць вайсковыя расходы). У праграме CDU сапраўды з'явілася абяцанне — павялічыць бюджэт на абарону ўдвая (зараз Германія расходуе на абаронку трошкі больш за адзін працэнт), што выклікала пратэсты сацыял-дэмакратаў.

Праўда, хапае тых, хто не верыць у пацыфісцкія мантры эсдэкаў, згадваючы, як у 1998 годзе, пры канцлеры Шродары, немцы ўдзельнічалі ў вайне з Югаславіяй. Папросту для эсдэкаў тэма мілітарызацыі — добры сродак перацягнуць на свой бок бюргераў. Апошнія не на жарт баяцца, што бюджэт Бундэсверу павялічаць за кошт сацыяльных артыкулаў.

Застаюцца «Саюз 90/Зялёныя», з якімі таксама ўсё не проста. З аднаго боку, эколагі — найбольш паслядоўныя ў Германіі прыхільнікі еўрапейскага адзінства і палітыкі санкцый адносна Расіі. З іншага — для падтрымкі рэнамэ сапраўдных эколагаў «Зялёныя» сёння павінны быць у апазіцыі адносна Меркель. Крытыкаваць Меркель вымагае, у тым ліку, нядаўні скандал наконт праблемы развіцця электратранспарту. Пераход на электрамабілі, на думку экалагічнай грамадскасці, сабатуе каманда канцлера, якая не хоча заканадаўча прымусіць аўтапром інвеставаць ва ўласную вытворчасць акумулятараў для электрамабіляў.

Скласці кааліцыйны пасьянс у такой сітуацыі Меркель будзе няпроста, аднак выбіраць так ці інакш давядзецца. Хутчэй за ўсё, інтрыга захаваецца аж да таго, як будуць агучаныя вынікі галасавання.

Дарэчы, не выключана, што пасля нас чакае не менш цікавы рэбус. Літаральна апошнімі днямі ў прэсе з'яўляюцца плёткі, што Ангела Меркель праз два гады збіраецца пайсці з пасады кіраўніка ўраду, перадаўшы паўнамоцтвы пераемніку, імя якога пакуль трымаюць у сакрэце.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмануэль Макрон



Цяперашні гаспадар Елісейскага палацу паставіў абсалютны рэкорд у падзенні даверу. Хапіла прыкладна ста дзён, каб рэйтынг прэзідэнта Францыі абваліўся з 65 да 36 працэнтаў. Ніводны папярэднік Макрона, нават вельмі непапулярны Франсуа Аланд, які закончыў кадэнцыю з 6 працэнтамі падтрымкі, так імкліва не губляў папулярнасць.

Прэса называе цэлы комплекс учынкаў, якія да гэтага прывялі. Гэта і канфлікт з генераламі, якім не спадабалася скарачэнне фінансавання войска. І намер уладкаваць жонку ў сваю адміністрацыю ў якасці дарадчыцы, хаця падчас выбарчай кампаніі Макрон крытыкаваў выпадкі непатызму ў французскай эліце. Не спадабаўся грамадству і праект падатковай рэформы, якая моцна б'е па моладзі.

На думку псіхолагаў, Макрону характэрныя элітарнасць і аўтарытарызм, а гэта прыводзіць да памылковых крокаў. У выніку мы маем камічную сітуацыю, калі прэзідэнт, у якім увесну ўсе бачылі анты-Трампа, мае такую ж нізкую папулярнасць, як сам Трамп.

Праўда, у Трампа, у адрозненне ад Макрона, так ці інакш ёсць электарат у выглядзе кансерватыўнай белай правіцыі. Назіраючы за тэндэнцыяй, шмат экспертаў, у тым ліку людзі з атачэння прэзідэнта Францыі, прагназуюць на восень моцны палітычны шторм.

### Эмамалі Рахмон



Кіраўнік Таджыкістана, як высветлілася, аказаўся вялікім аматарам музыкі. Толькі так можна патлумачыць незвычайны інцыдэнт у адным з райцэнтраў, які на днях наведаў гарант.

Кіраўніка дзяржавы павінны былі сустрэць звонкімі рытмамі дойры (ударны музычны інструмент кшталту бубна) каля ўваходу на мясцовы стадыён, дзе праходзіла тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам тысяч жанчын. Але ў жанчын нешта не заладзілася, і яны пачалі збівацца з рытму. Рахмон нахмурыў бровы — яму такая сустрэча была відавочна не па душы. І, як толькі ён з'ехаў, пачаліся пошукі вінаватых.

«Стрэлачніцай» аказалася старшыня аддзела па справах жанчын і сям'і. У Таджыкістане да паездак кіраўніка дзяржавы ў рэгіёны рыхтуюцца сур'ёзна і скрупулёзна. Мясцовыя чыноўнікі задоўга да паездкі арганізуюць «працу» з жыхарамі. Пачынаецца падрыхтоўка да галоўнага відовішча — тэатралізаваных прадстаўленняў з удзелам мясцовых артыстаў і школьнікаў. Падчас сустрэчы ўсе павінны стаяць перад Лідарам Нацыі (афіцыйны тытул Рахмона) з рукамі над сэрцам.

Калі верыць апазіцыі, арганізацыя такіх сустрэч каштуе мясцовым бюджэтам дзясяткі тысяч долараў, хаця ў Таджыкістане кожны трэці чалавек жыве за рысай беднасці.

### Надзея Саўчанка



Дэпутатка Вярхоўнай Рады Украіны, былая ваеннапалонная, прадставіла ўласную мадэль кіравання Украінай. На яе думку, такая мадэль павінна быць заснаваная на прынцыпах праўлення XVII стагоддзя, а дакладней, на прынцыпах Гетманшчыны.

Гетманшчына — гэта цэнтралізаваная ваенная і адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура, якая паўстала ў краіне пасля паўстання Багдана Хмяльніцкага. Кіраваў ёй гетман, які абіраўся і здымаўся на зборах казакоў. Менавіта найпрасцейшая дэмакратыя і падабаецца Саўчанка. «Гетманшчына — гэта прапарцыйны выбар людзей ва ўладу і іх адхіленне, калі яны не апраўдаюць даверу народа», — кажа дэпутатка. Саўчанка ўпэўненая, што ва Украіне не павінна быць палітычных партый, паколькі яны сябе дыскрэдытавалі.

Хаця прапановы Саўчанка вельмі арыгінальныя, шмат каму яны спадабаліся, што сведчыць пра крызіс цяперашняй украінскай палітычнай сістэмы. Такое глыбокае расчараванне выклікае пагрозу перамогі папулістаў на наступных парламенцкіх выбарах, якія плануюцца ўвесну 2018 года.

Сёння сацыялогія фіксуе рост папулярнасці малавядомых яшчэ ўчора праектаў. Сярод іх і «Рух новых сілаў» Міхаіла Саакашвілі. Дзякуючы скандалу з пазбаўленнем яго грамадзянства, партыя настолькі ўзнялася ў палітычных хіт-парадах, што можа нават пасунуць галоўнага апазіцыянера Юлію Цімашэнка.

# Арышт, лагер, зноў арышт і расстрэл

Сяргей ЧЫГРЫН

**Лёс Антона Кашко, беларуса, які служыў у арміі Калчака, — і тыповы, і асаблівы адначасова. Яго расстралялі ў 1937-м, але дакументы па справе Антона Кашко друкуюцца ўпершыню.**





Радзіма Антона Кашко

## Вясковае жыццё, вайна, Белая армія

Вёска Боцкавічы Дзятлаўскага раёна ў першай палове XX стагоддзя ўваходзіла ў склад Слонімскага павета. У 1897 годзе ў вёсцы пражывалі 473 жыхары, а напачатку Першай сусветнай вайны — крыху больш за 500 жыхароў.

Жылі ў вёсцы і сем'і з прозвішчам Кашко. Звычайныя беларускія сем'і, якія з ранку да вечара працавалі на зямлі, каб было з чаго жыць і гадаваць дзяцей.

У праваслаўнай сям'і Аляксандра Кашко 21 лютага 1891 года нарадзіўся сын Антон. Маленства яго прайшло ў родных Боцкавічах. А потым хлопчык скончыў царкоўнапрыходскую школу. У 13 гадоў Антона Кашко бацькі аддалі вучыцца ў гімназію ў Ліду. Там ён скончыў 6 класаў і паступіў на аднагадовыя курсы настаўнікаў у Наваградак. Пасля курсаў яго накіравалі на працу настаўнікам у Мазырскі павет. Але там не аказалася працоўнага месца, таму юнак паехаў працаваць у Бабруйскі павет. Настаўнічаў Антон Кашко на Бабруйшчыне да пачатку Першай сусветнай вайны.

Летам 1914 года яго прызвалі ў войска і залічылі ў чацвёртую роту 118 пяхотнага Шуйскага палка радавым. А потым адразу накіравалі на фронт ва Усходнюю Прусію. На фронце ён быў да мая 1915 года. Там малады салдат напісаў заяву і быў залічаны ў Першую Пецяргофскую школу прапаршчыкаў. Восенню 1915 года беларус Кашко скончыў школу прапаршчыкаў, і яго перавялі ў малодшую школу ўнтэр-афіцэраў. А праз пэўны час накіравалі ў 11-ы Сібірскі стралковы запасны батальён у склад малодшых афіцэраў 4-й роты.

19 лютага 1916 года Антона Кашко адправілі ў складзе роты на фронт. Яго афармілі ў 494 пяхотны Верэйскі полк малодшым афіцэрам 1-й роты, а потым перавялі афіцэрам 8-й роты. Летам беларус пачаў камандаваць гэтай самай ротай.

З таго часу ў Антона Кашко пачынаецца вайсковая кар'ерны рост. Ён камандуе 13-й ротай, прызначаецца часовым камандзірам 2-га батальёна, ваюе на Румынскім фронце і г.д.

За гэты час вайскоўца з Дзятлаўшчыны ўзнагародзілі ордэнам Св. Станіслава трэцяй ступені, ордэнамі Св. Ганны трэцяй і чацвёртай ступеняў, Георгіеўскім крыжам 4-й ступені і іншымі ўзнагародамі.

У сярэдзіне снежня 1917 года Антон Кашко атрымаў двухмесячны водпуск і паехаў да бацькоў у Сібір, дзе яны знаходзіліся ў бежанстве. А летам 1918 года прыехаў у Томск і пачаў служыць у 4-м Томскім палку. Улада там належала Белай арміі. Ваеннае камандаванне ўзначальвалі генералы Аляксей Грышын-Алмазаў (1880–1919) і Анатоль Пепеляеў (1891–1938). У жніўні 1918 года 4-ы Томскі полк быў перайменаваны ў 8-ы Бійскі Сібірскі стралковы полк, а дывізія, дзе пачаў служыць Антон Кашко, стала называцца 2-й Сібірскай стралковай.

Так вайсковец з Дзятлаўшчыны трапіў у Белую армію. Гісторык з Барнаула (Расія) Андрэй Краснашчокаў, з якім мы разам даследуем лёс вайскоўцаў Белай арміі ў 1917–1920 гадах, у тым ліку і беларусаў, напісаў мне, што знайшлося пацвярджэнне, што Антон Кашко служыў у 8-м Бійскім палку ў адмірала Аляксандра Калчака (1874–1920). Ужо ў лютым 1919 года Антон Кашко меў чын штабс-капітана і быў нават узнагароджаны за поспехі ў баях з Чырвонай арміяй ордэнам Св. Уладзіміра 4-й ступені (загад Сібірскай арміі № 57 ад 13.02.1919 года). Дый у пратаколе допыту за 1937 год ад 4 жніўня ў Віцебску гэта добра адлюстравана. Але гэта будзе пазней.

**Антона Кашко двойчы арыштоўвалі і двойчы яго рэабілітавалі: па першай справе ён быў рэабілітаваны 12 ліпеня 1989 года, а па другой — 14 чэрвеня 1958 года**

## Арышт — лагер, арышт — расстрэл

У архіве ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці захоўваюцца дакументы, якія паведамляюць, што першы раз Антон Кашко быў арыштаваны Віцебскім аператыўным сектарам АДПУ БССР 28 лістапада 1937 года (ордэн на арышт ад 27 лістапада 1930 года № 1422). Яго абвінавачвалі ў правядзенні антысавецкай агітацыі. А 26 студзеня 1931 года былы вайсковец арміі Калчака быў накіраваны ў канцлагер тэрмінам на 5 гадоў. Тэрмін ён адбыў і вярнуўся ў Віцебск.

У Віцебску Антон Кашко з сям'ёй жыў на вуліцы 5-я Лекерта, дом № 11. Разам з ім жылі жонка Кашко Аксеня, 1905 года нараджэння і сын Уладзімір, 1925 года нараджэння. Дарэчы, сын Уладзімір Кашко падчас Другой сусветнай вайны 20 студзеня 1943 года быў прызваны на фронт. Ён служыў механікам электра- і спецабсталявання. 20 мая 1945 года яго ўзнагародзілі медалём «За баявыя заслугі». Гэты медаль Уладзімір Кашко атрымаў за тое, што абслужыў 268 баявых самалётавылетаў ноччу на бамбардзіраванне ваенна-прамысловых аб'ектаў ворага. А на Дзятлаўшчыне ў гэты час жылі і яго бацькі: Аляксандр Кашко і Агаф'я Кашко, а таксама браты Міхаіл і Іван.

Антон Кашко, пасля пяці гадоў зняволення ў Віцебску, пачаў працаваць эканамістам-планавіком Віцебскай ільнопрадзільнай ткацкай фабрыкі імя Кагановіча. Здавалася, што ўсе нягоды за плячыма. Цяпер можна спакойна жыць і працаваць. Тым больш, што ў той час не дужа хапала людзей адукаваных, найперш у пытаннях эканомікі. У Антона Кашко жыццёвы вопыт быў вялікі.

Але раптам 8 жніўня 1937 года яго зноў арыштавалі. Падчас допыту Антону зноў нагадалі пра тое, што ён служыў у Белай арміі. Вось пратакол допыту, які захоўваецца ў архіве ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці.

***Пратакол допыту 1937 года жніўня 4-га дня гор. Віцебска:***

«Я, оперупаўнаважаны Віцебскага гарадскога аддзела НКУС мл. лейтэнант дзярж.бяспекі (закрэслена) дапытаў арыштаванага Кашко Антона Аляксандравіча, 1891 года нараджэння, б/п, з сярэдняй адукацыяй, жанаты, беларус, служачы, ураджэнец вёскі Боцкавічы Дзятлаўскай воласці Слонімскага павета Польшчы, працуе на фабрыцы Кагановіча ў якасці эканаміста-планавіка, жыву ў горадзе Віцебску, вул. 5-я Лекерта, д.11.

***Пытанне:*** Якую Вы мелі гаспадарку перад і пасля рэвалюцыі?

***Адказ:*** Зямлі 4 дзесяціны, кароў — 2, коней — 1. Якая гаспадарка ў бацькі цяпер — я не ведаю, бо бацька жыве ў Польшчы.

***Пытанне:*** Калі і за што Вы судзіліся?

***Адказ:*** Судзіўся я ў 1931 годзе тройкай АДПУ БССР за антысавецкую і контррэвалюцыйную дзейнасць, тэрмінам на 5 гадоў, пакаранне адбываў у канцлагеры.

***Пытанне:*** У якім чыне і пасадах Вы служылі ў Белай арміі?

***Адказ:*** Служыў у арміі Калчака ў чыне штапс-капітана, на пасадах камандзіра роты і камандзіра батальёна да самага разгрому Чырвонымі войскамі Калчака. Падчас разгрому Калчакаўскай арміі трапіў у палон да чырвоных.

***Пытанне:*** Хто са сваякоў у Вас ёсць за мяжой?

***Адказ:*** У Польшчы ў вёсцы Боцкавічы жывуць мае бацька, маці, браты і сястра. Але так, як я ніякай сувязі з імі не маю, сказаць, хто са сваякоў яшчэ жывы, я не магу. Акрамя блізкіх сваякоў, там пражываюць сваякі больш далёкія.

***Пытанне:*** Следства мае дадзеныя пра тое, што Вы на працягу доўгага часу займаліся контррэвалюцыйнай прапагандай. Раскажыце пра гэта следству.

***Адказ:*** Ніколі я контррэвалюцыйнай прапагандай не займаўся.

Выказанае запісана з маіх слоў правільна, мне прачытана ўслых, у чым я і распісваюся. Чытаў асабіста Антон Кашко.

***Дапытаў:*** опер.упаўнаважаны Віцебскага ГА НКУС (подпіс неразборлівы).

***Пратакол дадатковага допыту абвінаваўчага Кашко Антона Аляксандравіча ад 5 жніўня 1937 года***

***Пытанне:*** Ці прызнаеце Вы сябе вінаватым у прад'яўленым Вам абвінавачванні па 72-76 арт. КК БССР?

***Адказ:*** Вінаватым у прад'яўленым мне абвінавачванні па 72-76 артыкулах КК БССР у тым, што я, сумесна з групай кулакоў, рэпрэсіраваных савецкай уладай, праводзілі арганізацыйную контррэвалюцыйную работу, накіроўваючы рабочых у контррэвалюцыйным накірунку, зрываючы мерапрыемства партыі і савецкай улады, не прызнаю ні ў якай меры.

Запісана з маіх слоў правільна, прачытана мною асабіста, у чым я і распісваюся А.Кашко.

***Дапытаў:*** оперупаўнаважаны (почырк неразборлівы)».

* * *

Пастановай тройкі НКУС БССР ад 9 жніўня 1937 года Антон Кашко быў асуджаны на расстрэл, і 22 жніўня 1937 года яго расстралялі. Месца расстрэлу невядомае.

Антона Кашко двойчы арыштоўвалі і двойчы яго рэабілітавалі: па першай справе ён быў рэабілітаваны 12 ліпеня 1989 года, а па другой — 14 чэрвеня 1958 года.

У Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці (ф.5, воп.2, спр.908; ф.302, воп.2, спр.223) захоўваюцца дакументы са справы Антона Кашко, вокладкі спраў, асабістая картка, загады, выпіскі загадаў, анкеты, службовыя запісы 1920-х гадоў, некаторыя даведкі.


Смена ...
№ ... цех ...
ПРОПУСК
Предъявитель сего тов. ...
действительно работает на ф-ке имени Л. М. Кагановича в качестве ...
Действительно по 30 Декабря 1937 г.
Нач. В. С. О.
Зав. Бюро пропусков

Срок продлен „ “ 193 г.
Зав. Бюро пропусков
Срок продлен „ “ 193 г.
Зав. Бюро пропусков
Срок продлен „ “ 193 г.
Зав.Бюро пропусков

# Забыты змагар франкамоўнай беларусікі

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Сорак гадоў таму, 28 ліпеня 1977 года, у Парыжы памёр слынны святар, пісьменнік, публіцыст, дыяспарнік, мемуарыст Леў Гарошка. Знакаміты ён быў у дыяспарнай Беларусі як святар ды хрысціянскі празаік, аднак дасюль застаюцца не вядомыя іншыя бакі яго дзейнасці.**




Леў Гарошка

Падаецца, мы зусім ігнаруем такую важную сферу дзейнасці Льва Гарошкі, як мовазнаўства і слоўнікатворчасць.

Паціху, дзякуючы пэўнаму адкрыццю ў 1990-я гады мінулага стагоддзя, спадчына Льва Гарошкі вярнулася на радзіму, хоць па сёння не ўся яна вядомая беларусам. Да друку цяпер рыхтуецца кніга ўспамінаў святара, якія ў рукапісе вядомыя пад назвай «Праз навальніцы і нягоды». І мы зусім не ведаем Льва Гарошку — змагара на франкамоўнай ніве беларусікі. Бо, апынуўшыся ў замежжы ў канцы Другой сусветнай вайны ў самым віры пошукаў і расколаў сярод беларусаў Захаду, Францыі ў прыватнасці, Леў Гарошка, акрамя святарскай дзейнасці, вымушаны быў займацца дыяспарнымі справамі, а да ўсяго мастацкімі, пісьменніцкімі, выдавецкімі і перакладніцкімі.

Не па адукацыі, а па волі лёсу стаўся ён мовазнаўцам і складальнікам слоўнікаў, у тым ліку, як вынікае з лістоў самога Гарошкі Чэславу Сіповічу за 1950 год, першага беларуска-французскага слоўніка. «Сапраўды прыходзіцца перажываць ня раз тое, што французкія пісьменнікі называюць «мукаю слова». Каб аблягчыць гэтую муку, я ўжо летась пачаў укладаць беларуска-французскі слоўнік, і адначасна французска-беларускі», — пісаў Гарошка Сіповічу.

Праўда, да сёння слоўнік не знойдзены ані ў архівах святара ў лонданскай Скарынаўцы, ані ў іншых патэнцыйных сховах беларускай дыяспарнай кніжнай спадчыны (Парыж, Нью-Ёрк).

Да ўсяго, такія вядомыя дыяспарнікі, якія ведалі святара (Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Івонка Сурвіла), у электронных пасланнях за 2015–2016 пазначылі, што, верагодней за ўсё, слоўніка ў фінальнай версіі і не было, прынамсі ім нічога пра яго не вядома. Ані слова няма пра слоўнікавую працу Гарошкі ў тэкстах айца Аляксандра Надсана. А таму яшчэ больш таямнічымі становяцца тэма і гісторыя складання першага беларуска-французскага і французска-беларускага слоўніка (дарэчы, да сёння мы не маем ніводнага перакладнога слоўніка з французскай ці на французскую мову).

Дзеля справядлівасці варта прыгадаць імя яшчэ аднаго беларуса-дыяспарніка, сарбонаўца, спрычыненага да слоўніка, — Яўхіма Скурата, які да пераезду ў Канаду жыў у Францыі і ўклаў значную частку беларуска-французскага слоўніка, рэдагаванага айцом Гарошкам. Хутчэй за ўсё, гэта адзін і той жа слоўнік, пра які ўзгадвае Гарошка ў лістах да Чэслава Сіповіча:

«Гэтым разам працаваў амаль выключна над беларуска-французскім слоўнікам. Ужо пераклаў 8 тысяч слоў — яшчэ асталося 14. Прыходзіцца шмат слоў дадаваць падчас тлумачэньня. Праца гэтая надзвычай марудная і, як для мяне, дык цяжкая, бо часам прыходзіцца траціць цэлыя гадзіны часу, каб знайсьці якое французкае слова для азначэньня беларускага, якога няма ані ў расейскай, ані ў польскай мове — а такіх слоў ёсьць больш 3-х тысяч» (17.01.1950).

«Вельмі шмат часу і энэргіі забіраюць ня раз старанньні падшукаць адпаведнае слова. Сапраўды прыходзіцца перажываць ня раз тое, што французкія пісьменьнікі называюць «мукаю слова». Каб аблягчыць гэтую муку, я ўжо летась пачаў укладаць беларуска-французскі слоўнік, і адначасна французка-беларускі. Праца гэтая ўжо пасунулася даволі далёка. Каб было пару месяцаў часу, дык-бы беларуска-французскі слоўнік на 22 тысячы быў-бы гатовы зусім. Але і ў гэтай працы, зноў тая самая мука слова не дае супакою. Каб знайсьці адпаведныя трапныя словы пастанавіў упарадкаваць сваю зборку прыказкаў і цяпер ужо маю якіх 7 тысячаў прыказак, можа нават і з гакам [...]. Словам праца адна за другую вяжацца ў неразрыўны ланцуг і ніколі не дае хвіліны супачынку» (7.12.1950).

Праўда, у лістах Леў Гарошка не прыгадвае дапамогу Яўхіма Скурата: мажліва, той далучыўся да супрацы пазней. Тым не менш, слоўніка нідзе няма, і хочацца верыць, што недзе ён усё ж такі рупліва захоўваецца.

Хоць святар прыбыў у Францыю, не ведаючы французскай мовы, паступова ён авалодаў ёю — у франкамоўных зборніках з'яўляюцца тэксты святара — «Le culte de Notre Dame en Biélorussie» («Культ Дзевы Марыі ў Беларусі»), перакладзены ў 1956 годзе з дапамогай прафесійнага перакладчыка, пазней ён рыхтуе справаздачы па-французску для Кангрэсу працоўных хрысціянаў (напрыклад, «Situation actuelle de la vie religieuse en Biélorussie» // «Сучасны стан рэлігійнага жыцця ў Беларусі»). На кангрэсах Міжнароднага руху працоўных хрысціянаў Леў Гарошка не толькі выступаў па-французску, але здабыў сімвалічную падтрымку ў бок Беларусі і Украіны, дзвюх забытых нацый Еўропы, без іх, як пастанавіла Рада кангрэсу, «будучыня Еўропы не ўяўляльная».

Іншае важнае, вартае памяці і адмысловай заўвагі змаганне святара на франкамоўнай ніве — змаганне ў Францыі за назву «ўцякач» і пазней «мігрант беларускага паходжання» (réfugié d'origine Biélorussien), за беларускую прысутнасць у Францыі наагул. Бо не аднойчы — у 1955 і 1970 гадах — Французскае бюро па абароне ўцекачоў і апатрыдаў спрабавала замяніць назву «réfugié d'origine biélorussien» (уцякач беларускага паходжання) на назву «réfugié d'origine russe» (уцякач расійскага паходжання) ці «réfugié d'origine polonaise» (уцякач польскага паходжання). Такое рашэнне не прымалася як пад прэсам уласна французскага русафільства, якое ігнаравала і ігнаруе дасюль існаванне беларусаў і ўкраінцаў, якія бачыліся як субэтнас расіян, так і пад уплывам савецкай дыпламатыі, якая спрабавала навязаць Францыі негатыўны вобраз уцекачоў з Беларусі і Украіны. Да ўсяго ў справу часцяком дамешвалася праасімілятарская пазіцыя колькасна вялікай польскай дыяспары, якая бачыла і пазначала на Захадзе беларусаў з Заходняй Беларусі як палякаў.



Віржыні Шыманец, Мары Шыманец, Лявон Шыманец, біскуп Часлаў Сіповіч, айцец Леў Гарошка



Злева направа: а. Аляксандр Надсан, Аўген Вярбіцкі, а. Язэп Германовіч, а. Леў Гарошка, Павал Навара. Агарод Марыян-Хаўса (Лондан). 1960 г. Фота nn.by

У такой складанай і маласпрыяльнай беларусам сітуацыі Леў Гарошка знаходзіў сілы і аўтарытэтных сяброў у Францыі і Ватыкане: вядома, што яшчэ ў 1946 годзе Гарошку ўдалося вярнуць у рэлігійныя тэксты назву «Беларусь», выдаваць у Ватыкане тэксты па-беларуску і пераканаць Усходнюю Кангрэгацыю ў тым, што лацінская назва «Rutheni» азначае не толькі сучасную Украіну, але і Беларусь. Таксама ў 1946 годзе французскія рэлігійныя ўлады падтрымалі стварэнне «Каталіцкай беларускай місіі ў Францыі». Усё гэта, няма сумневу, дапамагала беларусам Францыі ў змаганні за сваё месца побач з больш актыўнымі і вядомымі на Захадзе палякамі і расіянамі.

**На кангрэсах Міжнароднага руху працоўных хрысціянаў Леў Гарошка здабыў сімвалічную падтрымку ў бок Беларусі і Украіны, дзвюх забытых нацый Еўропы, без іх, як пастанавіла Рада кангрэсу, «будучыня Еўропы не ўяўляльная»**

У свецкай сферы архімандрыт Гарошка дзейнічаў разам з Міколам Абрамчыкам, прэзідэнтам Рады БНР, з Міхасём Наўмовічам, які ўзначальваў «Беларускі хаўрус» у Францыі, і з Леанідам Шыманцом, які ўзначальваў арганізацыю «Незалежная беларуская моладзь». З архіваў Скарынаўкі вядомыя іх лісты ад 1955 года міністру замежных спраў Антуану Пінэ, а ў 1970–1971 гадах — міністру замежных спраў Марысу Шуману і прэм'ер-міністру Францыі Жаку Шабан-Дэльмасу.

Напрыклад, ліст Льва Гарошкі, Міколы Абрамчыка і Міхася Наўмовіча ад 23.06.1955 міністру замежных спраў Францыі А. Пінэ наконт прызнання беларускай нацыянальнасці ўцекачоў з тэрыторыі Беларусі ў Францыі атрымаў падтрымку міністра. У выніку ўвосень 1955 года беларусы Францыі атрымалі афіцыйны адказ ад спадара Гейро, дырэктара Французскага бюро па абароне ўцекачоў і апатрыдаў, у якім была прызнана адзіная слушная назва — «réfugié biélorussien».

Праз пятнаццаць гадоў, у 1970-м, сітуацыя паўтарылася, і Леў Гарошка зноў разам з Наўмовічам і Шыманцом напісалі ліст прэм'ер-міністру. І зноў Міністэрства замежных спраў падтрымала просьбу беларускіх актывістаў Францыі і дазволіла беларусам самастойна абіраць і пазначаць нацыянальнасць у картках і пашпартах.

Сёння імя Льва Гарошкі забытае ў Францыі, у Парыжы няма завулка, які б меў імя святара, беларуская дыяспара Францыі амаль асімілявалася, а французы слаба ведаюць Беларусь, зноў блытаюць яе з Расіяй і Польшчай. У Парыжы няма ані беларускага цэнтру, ані гіду па беларускіх мясцінах Парыжу (ды і Францыі, шырэй глядзячы), згубіўся рукапіс першага беларуска-французскага, а таксама французскага-беларускага слоўніка, калі верыць лістам Льва Гарошкі. А сам Леў Гарошка, хоць і памёр у Парыжы, быў рупліва перавезены і пахаваны Аляксандрам Надсанам у Лондане.

І тым не менш, на малавядомыя вычыны Льва Гарошкі не варта забывацца. Змаганне Гарошкі з французскімі міністэрствамі і слыннай французскай сляпой русафіліяй — гэта яскравы след у развіцці французска-беларускіх стасункаў. Надышоў час адкрыць, апублікаваць ягоную малавядомую спадчыну на ніве франкамоўнай беларусікі, вярнуць Беларусі не проста імя знакамітага святара і рэлігійнага празаіка, а імя малавядомага мовазнаўцы, складальніка слоўнікаў з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй.

# Ці атрымае Бартосік прэмію Гедройца?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Журы прэміі імя Ежы Гедройца абвясціла доўгі спіс з 12 твораў, а ў верасні будзе названы кароткі спіс з 6 найлепшых. Узнагароджанне пераможцаў запланаванае на кастрычнік.**





Мы пачынаем знаёміць чытачоў з намінантамі на гэтую пачэсную ўзнагароду. Першая кніга — твор Змітра Бартосіка «Быў у пана верабейка гаварушчы...», пра прэзентацыю якой мы пісалі на сайце.

Якія шанцы на перамогу ў твора Бартосіка? Як па мне, дык вялікія. Літаратура non-fiction застаецца ў трэндзе, пацверджаным атрыманнем Святланай Алексіевіч Нобелеўскай прэміі. У Змітра Бартосіка і Нобелеўскай лаўрэаткі ёсць адна агульная рыса: яны абодва — пісьменнікі, што пачыналі з журналістыкі.

Такую літаратуру не кожны адразу прызнае за «сапраўдную», часам даводзіцца даказваць. Падобная сітуацыя ў асяродку фатографаў: фотамастакі часам лічаць дакументальную, рэпартажную фатаграфію «не зусім і творчасцю».

У кнізе «Быў у пана верабейка гаварушчы» альтэрнатыўная гісторыя Беларусі 1930-х — 1950-х гадоў раскрываецца праз аповеды сведкаў часу. Здаецца, ну якая ж гэта літаратура — сабраць аповеды? Чыстая журналістыка, тым больш, што спачатку тэксты і друкаваліся як журналісцкія артыкулы ў серыі «Падарожжы Свабоды». Але гэтыя аповеды прыпраўленыя аўтарскімі ўражаннямі і фотаздымкамі, спарадкаваныя, як тыя шматкі тканіны ў лапікавым шыцці, і гучаць як цэльны твор.

Гэта добра адчулі акцёры «Свабоднага тэатра», якія некалькі месяцаў таму паставілі па кнізе аднайменны спектакль. Выбралі па характэрным вобразе аднаго з апавядальнікаў, і акрамя гісторыі, расказанай чалавекам, яму ж «прыпісалі» яшчэ некалькі з кнігі. Спектакль вельмі адрозніваецца ад тых, што мы прызвычаіліся наведваць, і, здаецца, па форме наватарскі нават для зусім не кансерватыўнага «Свабоднага тэатра». Гледачы трапляюць «у госці», на Дзень народзінаў адной з гераінь, увесь спектакль сядзяць разам з акторамі пры стале, ядуць, гамоняць. Падчас гутаркі і гучаць гісторыі, занатаваныя Змітром Бартосікам у розных кутках Беларусі. Калі нехта з наведвальнікаў захоча падзяліцца гісторыяй уласнай сям'і ці недзе пачутай, яго прыхільна выслухаюць. Дзеянне спектакля адбываецца ў пасляваенны час. «Пагружэнне» амаль поўнае: акторы сустракаюць гледачоў ужо ў вобразах і не выходзяць з іх, пакуль не правядуць, стол накрыты, нават free donation за спектакль прапануецца зрабіць у форме падарунка на Дзень народзінаў, з нагоды якога быццам бы і адбываецца застолле.

У гісторыях людзей, што ажываюць у кнізе і спектаклі, — боль і смутак, радасць і надзея... Шмат супярэчнасцяў, над якімі разважае Зміцер Бартосік і якія не можа «разгадаць», пакідаючы чытачу. Са старонак кнігі з намі гутараць дзеячы Саюзу беларускай моладзі, дрыбінскія шапавалы, паліцаі, партызаны, рэпрэсаваныя... Карціна вельмі пярэстая — у тым і каштоўнасць гэтай кнігі. Чырвонай ніткай праз яе праходзіць думка, што вайна была ў кожнага свая і фактычна насіла ў Беларусі характар грамадзянскай.

Але «Быў у пана верабейка гаварушчы» — кніга не толькі пра вайну. Гэта пра «маленькага чалавека», пра спробу годна жыць у нягодных умовах, а калі не атрымліваецца, то неяк прыстасавацца. Яшчэ — пра «іншую Беларусь», несавецкую, якую аўтар і шукае ў сваіх падарожжах.

Прэмія імя Ежы Гедройца ўручаецца з 2012 года. На прэмію могуць намінавацца кнігі, выдадзеныя ў папяровым або электронным варыянтах цягам каляндарнага года на беларускай мове ў жанрах «мастацкая проза», «эсэістыка». Папярэднія пераможцы прэміі: Павал Касцюкевіч з кнігай «Зборная РБ па неагалоўных відах спорту» (2012), Уладзімір Някляеў з кнігай «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» (2013), Ігар Бабкоў з кнігай «Хвілінка: Тры гісторыі» (2014), Віктар Казько з кнігай «Час збіраць косці» (2015), Макс Шчур з кнігай «Завяршыць гештальт» (2016).

**Фота Алены Ляшкевіч**

**У доўгі спіс прэміі ўвайшлі:**

Сяргей Астравец. Саргасава мора.
Зміцер Бартосік. Быў у пана верабейка гаварушчы.
Валер Гапееў. Ноч цмока.
Адам Глобус. Зваротная перспектыва.
Андрусь Горват. Радзіва «Прудок». Дзённік.
Андрэй Дзічэнка. Сонечны чалавек.
Зінаіда Дудзюк. Лаза.
Сяргей Календа. Падарожжа на край ложка.
Паліна Качаткова. Гняздо-2.
Людміла Рублеўская. Дагератып.
Уладзімір Садоўскі. 1813.
Аляксей Талстой. Апоўначы на сіялімскім мосце.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №775

Падпісана да друку 18.08.2017. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.